

Забытыя ўцекачы➔3

Жыдоўскія гісторыі➔8




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 41 (3152) Год LXI Беласток, 9 кастрычніка 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Фота Міры Лукшы

# Светлая Жэня з крыніцы слоў

**Міра Лукша:** — Ты выйшла ў свет з «Нівы». Пражыла шмат — і гора, і боль, і знявагу. Але засталіся ў Тваіх творах адно добрыя словы і пачуцці, журбота і сум, але і лагодная радасць і дабрыня. Калісь рэцэнзавала Твой зборнік Лада Алейнік у «Дзеяслове»: «Перад тым, як разгарнуць паэтычны зборнічак Жэні Мартынюк пад назваю „Белы гарлачык", не ўтрымаешся, каб хвілінку не палюбавацца на выяву кветкі на вокладцы. Сярод халоднага колеру вады ў аздобе абыякава-безаблічных талерак лісцяў асабліва выразна бачыцца адзінокая прыгажосць чысцюткіх пялёсткаў безабароннага белага гарлачыка, што пакорліва гайдаецца-трапечацца на хвалях, падуладны зменлівым настроям капрызлівага ветрыку... Кампазіцыйна кніжка складаецца з трох частак. У першай акварэльнымі фарбамі пастэльным танам выканала мастачка эцюд свету сваіх пачуццяў. Тут інтанацыі пераважнай большасці вершаў журботныя і песімістычныя. Гэта чуйнае рэха жаночых расчараванняў, страта колішніх спадзяванняў... Відавочны лейтматыў зборніка — сумная рэфлексія пра кволасць чалавечых адносінаў, інтуітыўнае прадчуванне блізкай зімы кахання. Менавіта гэты мінорны настрой агучвае радкі самотнай музыкай жалейкі, ахутвае тонкай лірычнай меланхоліяй...».

**Жэня Мартынюк:** — Вершы пішу, калі ёсць час і натхненне, а з гэтым бывае парознаму. Выйшлі ў мяне чатыры зборнікі лірыкі — «На парозе» (1999), «Белы гарлачык» (2004), «Ветразь успамінаў» (2010) і «Птушыны пералёт» (2015). Я вельмі шчаслівая, што магу выказацца на роднай мове, што мае словы чытаюцца. «У паэзіі мой дзявочы смех, і сум, што з душы ліецца. Акунуцца б мне ў крыніцы слоў — ці не адзіны мой ратунак». Тэмай маіх вершаў з'яўляецца прырода, адносіны чалавека да чалавека, каханне, сэнс жыцця, задума над праміnаннем. Я, вядома, жанчына, рысы жаноцкага характару пераліваю на паперу. Стараюся, каб у маёй паэзіі былі далікатнасць і цяпло.

**Міра Лукша:** — Які быў Твой шлях да беларушчыны і паэзіі?

**Жэня Мартынюк:** — Я пачатковую школу кончыла ў вёсцы Зубава, пайшла ў Эканамічны ліцэй у Бельску, які закончыла ў 1975 годзе і пачала шукаць працу. Першую працу я знайшла ў Беластоку і тут часта наведвала рэдакцыю «Нівы», тады яшчэ па вуліцы Суражскай. У 1976 годзе я выйшла замуж і пераехала жыць у горад Бельск. Пачала працаваць у Энергетычным раёне, дзе працую дагэтуль. Выйшла я з небагатай сялянскай сям'і. Дома ў нас была дысцыпліна. Я вынесла з дому тое, што трэба шанаваць людзей, не ашукваць нікога, жыць праўдай. І да сёння, калі штосьці камусь паабяцаю, стараюся гэта выканаць, быць верагоднай асобай, дапамагаць людзям... Я пасля ліцэя падала паперы на рускую філалогію ў Быдгашч, але бацькі: далёка, хто нам дапамагаць будзе! Перанесла я паперы ў Беласток, але было вельмі многа кандыдатаў, месцаў мала. Пасля я ўжо не прабавала. Можа і шкадую... Я стараюся аптымістычна глядзець на жыццё. Перажывае чалавек сваё жыццё, як яму Бог даў. Можа і не думала пісаць, але калі ўбачыла свой верш надрукаваным, пацягнула мяне. Я пісала карэспандэнцыі ў «Ніву», пісала і вершы. Адгэтуль я трапіла ў «Белавежу» і, дзякуючы «Ніве», я ведаю, што маю сяброў-паэтаў і ў Польшчы, і па-за межамі. Дагэтуль маю той верш, якім дэбютавала. Была ўвесь час з родным словам, з «Нівай». Пісала карэспандэнцыі — пра тое, што бачыла. Карэспандэнтамі ў «Ніве» займалася спадарыня Вера Валкавыцкая. Былі з'езды карэспандэнтаў штогод, вельмі многа нас дружна з'язджалася. Маю здымкі з тых часоў, пераглядваю іх, успамінаю нашы сустрэчы. Быў такі час, што я была адным з першых карэспандэнтаў! Чакалася новага нумару «Нівы», нашай, сваёй беларускай газеты... І кніжкі я любіла чытаць ад пачатковай школы. Прыносіла іх з бібліятэкі. Тады не было ў нас яшчэ электрычнасці, мы свяцілі газавай лямпай. Мама наліе газы, я чытаю, чытаю, за вечар і газы няма... Кніжка ўвесь час мяне прыцягвае, толькі часу цяпер заўсёды не хапае. Так што я заўжды з родным словам.



Фота Міры Лукшы

Сёлетнія белавежанкі-юбіляркі: Жэня Мартынюк (60), Лідзія Маліноўская (50) і Віялета Нікіцюк-Пэркоўская (30)

**Міра Лукша:** — Увесь час працуеш з людзьмі і словам. «Лучыш» не так электраток, як людзей, абанентаў «святла». А вырасла з нашай ніўскай руні.

**Жэня Мартынюк:** — Так, яшчэ прафесійна працую, пасля працы ў мяне хатнія абавязкі, як у кожнай жанчыны. Летам яшчэ працую ў агародзе, я таксама маці і бабуля, у мяне дзве дачкі Аня і Эмілія, а таксама ўнучка Кацярына, якую я вельмі люблю. Нарадзілася я 18 верасня 1956 года ў Зубаве на Бельшчыне. Гэта мая маленькая айчына, без якой я не ўяўляю свайго жыцця — вельмі люблю туды прыязджаць. Там цішыня ад гарадскога шуму, унутраны спакой. Наш хутар вельмі прыгожы ў кожную пару года, ён проста казачны, і я там напісала большасць сваіх вершаў. Там умовы спрыяюць пісанню. З хутарам звязаны маё дзяцінства і маладосць, у Зубаве я пачала вывучаць беларускую мову. Там зацікавілася таксама светам кніжак, і сама спрабавала выказацца на роднай мове. Мой першы верш «Мая Радзіма» я напісала будучы ў восьмым класе, потым былі наступныя друкаваныя ў «Ніве» і «Парнасіку», пасля сур'ёзнага літаратурнага дэбюту ў васьмідзясятыя гады я стала членам Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Так, я вырасла на «Ніве», дзякуючы таксама ўжо светлай памяці спадару Георгію Валкавыцкаму, які ўсіх нас гарнуў на сваё рэдакцыйнае палетка. Я часта наведвала рэдакцыю, пісала карэспандэнцыі на старонкі «Нівы» яшчэ з эканамічнага ліцэя. «Ніва» стала мне сям'ёй.

**Міра Лукша:** — Ты дзесяцігоддзі прысутная ў нашай беларушчыне як шчодры, добры чалавек, шчырая беларуска і аўтарка. Раскрыла Ты душу беларускім словам, паказала, што можна ў ім выказаць самыя запаветныя пачуцці.

**Жэня Мартынюк:** — За гады маёй прысутнасці ў беларушчыне і ў літаратуры я пазнала многа цікавых людзей, набрала вопыту, а мае зборнікі гэта мая цаглінка да літаратурнай спадчыны, і я гэтым вельмі ганаруся. З роднай хаты я ад бацькоў, а асабліва ад мамы Аляксандры (на жаль, ужо таксама светлай памяці) я вынесла сардэчнасць, ветлівасць, пашану да другога чалавека і да нашага надзённага хлеба. Бацькі вучылі мяне быць у жыцці сумленным і адказным чалавекам. Таму вось і мае вершы лірычныя, цёплыя, можна сказаць — жаноцкія і далёкія ад палітыкі, поўныя сонечнага святла, адчування праміnання, сардэчных перажыванняў. Вельмі трапна адчуў маю душу спадар Сяргей Чыгрын, рассакрэчваючы мяне ў сваёй рэцэнзіі на кнігу «Птушыны пералёт» у «Ніве» № 14 з сакавіка 2016 года.

**Міра Лукша:** — А Ала Петрушкевіч пісала пра Цябе так: «Талент гэты натуральны, стыхійна-прыродны, народжаны імкненнем выказаць сябе ў паэтычным слове. Яна творыць свой, па-жаночы вытанчаны, эмацыйна насычаны свет, дзе валадараць светлыя пачуцці дабрыні і пяшчоты, дзе сцішана ўспрымаюцца боль, растані і страты. Гэты свет напоўнены каштоўнасцямі іншага плану, адметнымі ад тых, што запаўняюць штодзённую мітусню». А Галіна Тварановіч: «Жэня Мартынюк не спаборнічае. Не гуляе ў хованкі з наканаваннем. А сумленна, даверліва кладзе сцежку свайго жаночага лёсу скрозь радасць, боль, горыч. Радкі Жэні Мартынюк арганізуюцца ў паэтычную матэрыю светлай усёпрабачальнасцю, верай у трыумф дабрыні». Занатоўваеш свае пачуцці і далей. Якія ў Цябе планы?

**Жэня Мартынюк:** — Мае жыццёвыя планы гэта дапрацаваць да пенсіі (засталося яшчэ адзін год і тры месяцы), а калі глядзець, што мае зборнікі выходзілі кожныя пяць гадоў, дык каб у 2020 годзе пабачыў свет мой чарговы зборнік лірыкі. Але ён пакуль што ў пялюшках :-).

**Міра Лукша:** — Дзякуем Табе за размову, віншуем з юбілеем і жадаем шчасця ды натхнення.

Распытвала Міра ЛУКША





# Новая рэальнасць

Свет увайшоў у новую рэальнасць, у якой яму прыйдзецца існаваць бліжэйшы час. І хоць ён толькі пачаў гэта ўсведамляць, затое ўсведамленне нарастае касмічнымі тэмпамі. На падсвядомасці ўжо і раней было ўсё зразумела. Зараз да асэнсавання новай рэальнасці падключаецца ўжо і свядомасць.

Новая рэальнасць вельмі моцна адрозніваецца ад старой. Нібыта нічога новага, на першы погляд, не адбываецца. Усё засталося як і раней. Расія сварыцца з Амерыкай, Пакістан з Індыяй. Уцекачы масава пруцца ў Еўропу. У ЗША праходзяць выбары, за якімі сочыць увесь свет і ніхто не можа сказаць, хто там выйграе. У Расіі за выбарамі ніхто не сачыў, бо вынік быў вядомы загадзя, гэтак жа як і ў Беларусі, Казахстане, Узбекістане і іншых постсавецкіх рэспубліках, якія не змаглі вырвацца з вялікабрацкіх абдымкаў Крамля.

Так нібыта было і раней. Вось толькі раней была надзея, што можна ў гэтым свеце нешта змяніць, не дазволіць давесці ўсё да поўнага абсурду і канчатковага краху. Была нават упэўненасць, што здаровы сэнс і звычайная чалавечая логіка падкажуць выхад. У некаторых нават былі спадзяванні на станоўчыя якасці чалавечай натуры, якія нібыта ўласцівыя нават кепскім людзям. Я ўжо не кажу пра разлік на самы звычайны інстынкт да самазахавання, які быццам бы мусіць быць нават у самых неадэкватных лідараў.

А вось зараз ужо няма аніякай надзеі ні на дамовы, ні на перамовы, ні на паляпшэнне адносін, ні на пошукі шляхоў выхаду з тупіковых сітуацый, ні на што. Сітуацыя больш не кантралюецца ні палітыкамі, ні духоўнымі лідарамі, ні міратворцамі, ні аўтарытэтамі, нікім.

Гэта і ёсць новая рэальнасць.

Усё выйшла з-пад кантролю. Сітуацыяй у свеце ў глабальным маштабе больш ніхто не кіруе ні самастойна, ні калегіяльна. Кожная спроба яе палепшыць толькі паскарае пагаршэнне. Ніхто нічога больш не ў стане кантраляваць.

Грамадзянская дыскусія ўнутры краін пераходзіць у мардабой, дыскусія паміж краінамі ў баявыя дзеянні.

Напачатку існавання ў новай рэальнасці больш камфортна сябе адчуваюць таталітарныя рэжымы. Іх самаўпэўненасць у беспакаранасці і магутнасці з кожнай саступкай дэмакратычных краін расце ў геаметрычнай прагрэсіі. Не важна колькі рэальна за іх прагаласавалі на так званых унутраных выбарах, бо яны заўсёды паказваюць усяму свету лічбу больш васьмідзесяці адсоткаў. І ім пляваць з высокай званіцы, верыць у гэтую лічбу іншыя ці не. Бо гэта не лічбы, гэта пасыл у свет пра іх магутнасць.

Маўляў, намалюем колькі захочам. І ніхто з гэтым нічога не зможа зрабіць. Ні ў сярэдзіне краіны, ні звонку. Таму справу мець можна толькі з намі, магутнымі, і ні з кім іншым.

Крыкі апазіцыі і незалежных наглядальнікаў пра фальсіфікацыі толькі ўзмацняюць упэўненасць такіх рэжымаў у сваёй моцы. Таму, калі надыходзіць канец падобнага рэжыму, як гэта сталася на Украіне, то самым моцным і шчырым пачуццём у іх з'яўляецца неверагодных маштабаў здзіўленне, якое толькі потым замяняецца на дзікі страх за сваю ўласную скуру.

Гэты жывёльны страх потым перадаецца разам з усведамленнем новай рэальнасці і тым таталітарным рэжымам, якія нібыта някепска трымаюцца. Але зразумелі, што сітуацыя ўжо імі не кантралюецца. Бо сітуацыя не кантралюецца нікім. Прыйшла новая рэальнасць.

Дэмакратычныя рэжымы таксама разумеюць, што цяпер не яны кіруюць сітуацыяй, а сітуацыя імі. Яны яшчэ занятыя сваімі выбарамі, спрабуюць змагацца з унутранымі і знешнімі праблемамі, залагоджваюць дыктатараў і з жахам глядзяць на непрадказальнасць будучыні. Кожнае іх дзеянне натыкаецца на супрацьдзеянне.

Спроба дамовіцца па Сірыі і спыніць там страляніну перарастае ў татальныя бамбардзіроўкі, спроба дамовіцца па Данбасе вымушае маўчаць пра Крым, спроба ўзмацніць дэмакратычныя каштоўнасці ўзмацняе іх апанентаў...

Падзеі пачынаюць жыць сваім жыццём і не залежаць больш ад людзей. Больш ні адно рашэнне палітыкаў, ні персанальнае, ні калегіяльнае, не ўплывае на сітуацыю.

І застаецца толькі адна надзея, што яна, гэтая новая рэальнасць, зменіцца сама. Ці на яе ход паўплывае Нехта мацнейшы за самых моцных гэтага свету?

Віктар САЗОНАЎ

# Туга па смуродзіку

Ніхто не зацікаўлены ў жыцці кузурак. Яны жывуць побач з намі, ды так, як быццам мы не існавалі. Ну, хіба што ўрываюцца ў нашу жыццёвую прастору, як прусакі на кухню ці фараонавы мурашкі ў цукарніцу. Блох, вошай ці блашчыц толькі памяну, таму што адна думка пра іх напаўняе мяне жахам. Праблему з кузуркамі мы апрацоўваем адзіным спосабам, панятным для нашых розумаў — абыякава іх ліквідуем. Газам. Атрутай. Саўком і шчоткай. Таму што прыкметная прысутнасць насякомых нараджае важныя пытанні: гігіенічныя, эстэтычныя, але і тэрытарыяльныя. Але больш тэрытарыяльныя, чым эстэтычныя. Аспект гігіены, хоць трактаваны панічна, калі б не сказаць істэрычна, у гэтым выпадку з'яўляецца толькі пустым упрыгожаннем сучаснай цывілізацыі дэзадарантаў, парфумаваных мыльцаў і духмяных сродкаў для мыцця. Варта адзначыць, што чалавечы свет усё менш і менш пахне чалавекам: яго потам, ферамонамі, эмоцыямі. Асабліва эмоцыямі. Мае сабачкі выдатна адчуваюць мой гнеў або радасць, смутак або эйфарыю, значна раней, чым іх пакажу жэстам, інтанацыяй слоў ці брыдкім мацюканнем. Нават значна раней, чым я, разумеюць мой актуальны псіхічны стан. Аднак, пры адной умове. Калі не пакрываю свайго цела плашчом адэкалону, не адзяваю ног у шкарпэткі з сінтэтычных дэзадарантаў, руку не апранаю ў пальчаткі духмянага мыла і галавы ў чалму кандыцыянера. А натуральны пах чалавека, вось, не дапускаецца ў чалавечым свеце. Таксама згасае выразна трохполавы падзел пахаў: мужчыны, жанчыны, дзіцяці. «Сексуальнасць» чалавечага паху пайшла да ўніфікацыі. Сёння, пардон, я не ведаю, ці апырскаўшыся мужчынскім адэкалонам пахну мужчынам. Таму што падобным водарам, але з іншай назвай, у роўнай ступені імкнуцца напахаціцца як жанчыны, так і дзеці. Эфірны, але забыты пах жанчыны з палітры квітнеючых лугоў, з адценнем мускусу і настальгічным кантрапунктам піжмы, ужо знік назаўжды. Калісь можна было адрозніць з заплюшчанымі вачыма, хто ёсць хто. І гэта не толькі пол, але і ўзрост чалавека і яго сацыяльны статус. Пры «камуне» дамінаваў цяжкі ружавы «дзікалон» працоўнага класа. Прытым пад свята, напрыклад, у Жаночы дзень. Пры дэмакратыі з'явіліся трапічныя акцэнты з арыгінальнымі ноткамі экзатычных спецый. Гэта быў пах эгалітарны. Ён запоўніў офісы і інтэрнаты, заводы і вуліцы. Бягучая водарная тэндэнцыя накіроўвае чалавечы густ да арамату спальвання, паху тлеючай драўніны, пажарышча ці брадзячага кампосту. Так яно і ёсць, які час, такі і водар! Яшчэ крышку, і вернемся да першалюдскіх крыніц: бруду затхлых пячор і смуроду гною, над якім нясецца пах праснакоў. Гледзячы на палітычны хаос, які ахапіў сучасны свет, не здаецца гэта немагчымым.

Хто ведае, калі «заглушванне» ферамонаў — хімічных рэчываў, якія маюць надзвычай сексуальную прывабнасць і натуральным чынам выпрацоўваюцца жывымі арганізмамі, такімі як насякомыя і млекакормячыя, уключаючы чалавека — апырскваннем хімічнымі дэзадарантамі, не з'яўляецца прычынай для размываннем гендэрных адрозненняў. І ў любым выпадку ўзмацненнем ускладненняў, звязаных з гендэрнай ідэнтычнасцю і сексуальнай арыентацыяй. Як гэта ні парадаксальна, большасць грамадстваў, у першую чаргу прадстаўляючых так званую «заходнюю цывілізацыю», працівіцца хімізацыі сельскай гаспадаркі, і нават варожа ставіцца да трактавання культур пестыцыдамі. Ад таго і пайшла мода на арганічныя прадукты харчавання. Аднак, у дачыненні да пахучага апырсквання людзей ніхто нават не бомкне. А прагрэс хімізацыі ў гэтай галіне жахлівы. Някрытычны. Бяздумны. Бо пра гэта клапоціцца магутны капітал парфумернай і касметычнай прамысловасці. Балбатанне паўголых знакамітасцей, ахінутых ілюзіяй туману духмяных спрэяў перамяшчаецца з нашых тэлевізараў на вуліцы. Размаўляем аб новых водарах. Абмяркоўваем новыя лініі касметыкі, трэнды ў парфумерыі. Аб смуродках у палітыцы не гаворыцца. Хвароба з'яўляецца словам табу. Асабліва ў кантэксце дэмакратыі. Пачатак дыскусіі аб сацыяльным раскладзе з'яўляецца прычынай анафемы. Старасць з'яўляецца *passe*. Так як і смерць. Маральныя нормы прымушаюць нас апранаць розныя шапкі-няўгледкі, маскі і падобныя рэчы грамадскай мімікрыі. Не да твару паказаць публіцы свой гнеў. І з радасцю не перашчыруйце. Гэтак жа і з горам ... Самы зручны спосаб: змяшацца з пахучым духмяным мылам натоўпам. Накрыцца парфумай. Схавацца пад амаладжальны крэм. Выжыць. Выжыць?!.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Студэнт — дурніца?

Прыгожыя першыя кастрычніцкія дні выклікалі ў мяне настальгію і задуменне над колішнім маім і сённяшнім часам студэнцтва. Як не круці, мінула ўжо трыццаць два гады з часу, калі я стаў студэнтам першага курса гісторыі Варшаўскага ўніверсітэта. Палова васьмідзясятых гадоў у краіне не была цікавай у палітычным і эканамічным плане. Пасля ўвядзення ваеннага становішча ў 1981 г. структуры апазіцыі ледзь дыхалі, у грамадстве заўважаліся стома і недавер у якія-небудзь перамены. Добраахвотная і прымусовая эміграцыя з Польшчы ў тым часе гэта таксама неад'емная частка гісторыі тадышняга грамадства. Адток мазгоў заўсёды становіцца праблемай кожнага народа.

Менавіта пачатак майго студэнцтва супаў з нягляданнем і ўдзелам у падзеях, звязаных з трагічнай смерцю ксяндза Ежы Папялушкі, што з Акопаў каля Сухаволі, які тады ў Варшаве быў капеланам Салідарнасці. Быў ён выкрадзены бяспекай 19 кастрычніка 1984 г., цела вылаўленае 30 кастрычніка, а пахаванне-маніфестацыя адбылася ў Варшаве 3 лістапада. Гэтае забойства выклікала такую хвалю абурэння, што дало новы імпульс падпольным структурам у змаганні з камуністамі. Зразумела, з боку не заставалася студэнцкая моладзь. Наш Інстытут гісторыі быў менавіта ў тым часе адным з месцаў найбольш гарачых палітычных дзеянняў, але і дыскусій паміж студэнтамі і выкладчыкамі. Гэта менавіта была вызначальна для мяне таксама і сэнс штудзіравання ў наступных гадах. Безліч пытанняў, супрацьстаўныя погляды і культурнасць дыскусіі ў рэальнасці сталі неад'емнай часткай студэнцкай маладосці. А нашы выкладчыкі з розных палітычных лагераў, таксама кампартыйных, стараліся ў гарачых галовы засеяць патрэбу пошукаў і абавязак аналізу палітычна-гістарычных працэсаў. Ну і, зразумела, экзаменацыйныя патрабаванні ў дачыненні да нас з боку навукоўцаў былі так вялікімі, што кожны герой дыскусій ці палітычных акцый, калі быў слаба падрыхтаваным да экзамену ці заліку, вылятаў за дзверы з двойкай. Таму дзейнасць дзейнасцю, але без канкрэтных ведаў інстытута ніхто не закончыў. Менавіта такім чынам у маім маладым тады жыцці здзяйснялася адна з асноўных мэт і задач універсітэта: прастора інтэлектуальнай свабоды і прыгоды, пабудаваная агульнай даступнасцю і кантактамі са свяцілямі тадышняй навукі і культуры. Усё гэта выбудоўвалася на аснове соцень абавязковых і неабавязковых кніжак, чытаных днямі і начамі. Без чытання ты для нікога не быў аніякім партнёрам у размовах.

Таму з аграмадным здзіўленнем і непакоем апошнімі гадамі пачаў я ўслухоўвацца ў адчайныя галасы маіх сябровак і сяброў — выкладчыкаў гуманітарных спецыяльнасцей пра інтэлектуальны ўзровень моладзі, з якой прыходзіцца ім працаваць ва ўмовах сістэмных змен у польскай адукацыі пасля 1990 года. Мог я за гэтым працэсам таксама назіраць на прыкладзе маёй дачкі і ейнай ангажаванасці. Справядлівей хіба будзе напісаць: бестурботнага падыходу да вучобы, асабліва ў гімназічны і ліцэйскі перыяды. Зараз стала яна студэнткай першага курса Варшаўскага ўніверсітэта і мусіць сама хутка зразумець, што такое самадысцыпліна і сістэматычнасць у вучобе. Мой сябра — прафесар гісторыі нават даказваў у публічных дыскусіях, што ў такой сітуацыі ва ўніверсітэт то нават лепей прымаць адразу пасля пачатковай школы, бо тады дзяцей яшчэ нешта цікавіць і можна нечаму іх навучыць. Усе, здаецца, дакладна зразумелі, што і сітуацыя з вышэйшым школьніцтвам апынулася ў тупіку і патрабуе радыкальных змен.

У апошнюю нядзелю прачытаў я такое вось выказванне рэктара Ягелонскага ўніверсітэта прафесара Войцеха Новака: «Wychodzimy z założenia, że studiować może każdy. To nieprawda. Nie ma w tym nic złego. Tak to już jest. Nie ma co się obrażać. Jeden ma dryg i zadatki na dobrego detektywa, inny sprawdzi się w prowadzeniu biznesu, a jeszcze inny będzie świetnym naukowcem. Przyjmując na studia młodych ludzi w takiej ilości jak teraz, my ich oszukujemy. Przyjmujemy ich tylko po to, aby dostać dofinansowanie z budżetu państwa. Dlatego musimy podnieść poziom kształcenia». Без каментарыя.

Яўген ВАПА

# Забытыя ўцекачы 1915 года



■ Іаанна Стэльмашук-Троц і Анэта Прымака-Оніш (справа) падчас прэзентацыі кніжкі «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы»

**Кіназала Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы вечарам 27 верасня запоўнілася жыхарамі Гайнаўшчыны, Беластока, Бельска-Падляшскага і іншых мясцовасцей. У рамках Тэатральнага фестывалю «Одэ» адбылася там прэзентацыя кніжкі Анэты Прымакі-Онішк «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы», выдадзенай на польскай мове вядомым у Польшчы выдавецтвам «Чорнае», а былыя гайнаўскія і бельскія белліцэісты, а зараз студэнты, займальна запрэзентавалі спектакль «Бежанцы», якога прэм'ера адбылася ў канцы 2014 года ў гэтай жа кіназале. Рэжысёрам «Бежанцаў» і апекуном тэатральнай групы, якая займаецца ў Гайнаўскім белмузеі і 25 разоў выступала з гэтым спектаклем на Падляшшы і па-за нашым рэгіёнам, з'яўляецца Іаанна Стэльмашук-Троц, арганізатарка Тэатральнага фестывалю «Одэ». Паявілася інфармацыя, што «Бежанцы» будуць паказвацца ў Гайнаўскім белмузеі апошні раз і можа таму асобы, якія не папалі на гэты спектакль раней, рашыліся прыехаць у Гайнаўку нават здалёк, каб паглядзець добрую ігру акцёраў і адчуць атмасферу бежанства. Невыпадкова прэзентацыя кніжкі Анэты Прымакі-Онішк «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы» з удзелам аўтаркі адбылася непасрэдна пасля спектакля «Бежанцы», бо гэты спектакль закранае ўсе праблемы бежанства, якія шырэй прэзентуюцца ў выданні Анэты Прымакі-Онішк «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы» і іншых кніжках пра бежанства, выдадзеных на Падляшшы.**

Гайнаўскія і бельскія белліцэісты, што займаліся ў тэатральнай групе ў Гайнаўскім белмузеі разам са сваёй апякункай Іаннай Стэльмашук-Троц, выступалі на мясцовай мове з вялікай ангажаванасцю, паказваючы свае акцёрскія здольнасці, якім вучыліся падчас шматлікіх рэпетыцый. Многа выступаў са спектаклем «Бежанцы», які паўстаў на падставе кніжкі «Бежанцы» Бажэны Дэм'янюк, публікацый на сайце **biezenstwo.pl** і нюскага выдання «Бежанства 1915 года», далі белліцэістам магчымасць моцна ўдасканаліць акцёрскі варштат. 27 верасня запрэзентаваліся яны перад публікай у белмузеі як вопытныя акцёры і выклікалі ў сабраных многа эмоцый і перажыванняў, а некаторыя гледачы нават праслязіліся.

— Мы са спектаклем «Бежанцы» выступалі 25 разоў. Цяпер наша моладзь закончыла вучобу ў белліцэях і паступіла ў вышэйшыя ўстановы. Мы рашыліся выступіць сёння апошні раз. Калі мы ў розных месцах паказвалі спектакль «Бежанцы», людзі былі моцна ўзрушаны. Пераказванне атмасферы бежанства выклікае многа эмоцый, а нават слёзы, — гаварыла Іаанна Стэльмашук-Троц, якая вельмі многа працы і сэрца ўклала, каб спектакль «Бежанцы» быў падрыхтаваны на высокім мастацкім узроўні.

— Спачатку падрыхтоўку да спектакля «Бежанцы» мы ўспрымалі як чарговую гульню ў тэатр. Калі ўбачылі як публіка перажывае нашы выступленні, зразумелі важнасць спектакля і трагізм нашых продкаў, якія адправіліся ў далёкае бежанства, пакідаючы ўсё нажытае дома. Бежанцы пахавалі многіх сваіх сямейнікаў, пражылі розныя трагедыі і вярталіся часта на поўнасцю знішчаныя гаспадаркі, — гаварылі акцёры, занятыя ў спектаклі «Бежанцы».

Гарачыя апладысменты і кветкі з рук дырэктара Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатоля Вапа атрымалі падчас вечарыны Іаанна Стэльмашук-Троц, разам з яе маладымі акцёрамі і Анэта Прымака-Онішк, якая, прэзентуючы кніжку «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы», распавядала пра ўспаміны бежанцаў і знойдзеныя ёю матэрыялы наконт бежанства.

Выдавецтва «Чорнае» стала распаўсюджваць выданне «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы» з 21 верасня і можна было яго купіць са скідкай непасрэдна перад гайнаўскай вечарынай і падчас яе. Размову з Анэтай Прымакай-Онішк падчас прэзентацыі кніжкі пра бежанства ўдала вяла Іаанна Стэльмашук-Троц.

— Бежанства спачатку было для мяне сямейнай гісторыяй. Пра яго пачула я ад маёй бабулі. Пазней я зацікавілася бежанствам шырэй і займаюся ім ужо чатыры гады. Вельмі важным было для мяне прачытанне кніжкі «Бежанства 1915 года», выдадзенай «Нівай». Чытаючы там розныя аповеды, я зразумела, што бежанства гэта наша агульная трагедыя. Пазней чытала я артыкулы і кніжкі Дарафея Фіёніка і айца Рыгора Сасны, але вельмі хацела знайсці запіскі, якія рабіліся непасрэдна падчас бежанства і з часам удалося такія гарачыя запіскі знайсці. Многа матэрыялаў пра бежанства знайшла я ў бібліятэцы ў Пецярбургу, але таксама знаходзіла інфармацыі пра бежанства ў бібліятэцы ў Варшаве. Калі я заснавала інтэрнэтную старонку biezenstwo.pl, сталі на яе паступаць шматлікія інфармацыі і расказы пра бежанства. Пазней я стала, карыстаючыся дапамогай добрых людзей, хадзіць па вёсках і размаўляць з людзьмі, якія маглі пераказаць аповеды бежанцаў. З гэтых усіх матэрыялаў паўстала мая рэпартажная кніжка пра бежанства, — сказала Анэта Прымака-Онішк, ураджэнка Кнышэвічаў, што непадалёк Саколкі, з якіх большасць жыхароў выехала ў бежанства, у тым ліку таксама сям'я Анэты Прымакі.
— Мы павінны памятаць аб бежанстве, аб гісторыі нашых продкаў. Бежанства было вельмі важным для нашых бабуль, якія былі яго ўдзельніцамі. Але бежанства павінна быць таксама важным для нас, іх нашчадкаў. Бежанства гэта не толькі паасобныя сямейныя гісторыі. Яно — універсальная гісторыя для нашых тэрыторый і важная для ўсёй Польшчы, жыхары якой павінны ведаць аб бежанстве.



■ Анэта Прымака-Онішк падпісвае сваю кніжку дырэктару Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатолю Вапу

Кніжка Анэты Прымакі-Онішк «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы» напісана на польскай мове і чытаецца лёгка. Можна з яе даведацца пра індывідуальныя лёсы паасобных людзей і сем'яў падчас бежанства і пра яго ў агульным. Можна прачытаць, як людзі збіраліся ў бежанства, як змагаліся з хваробамі, са смерцю і як вярталіся ў часта спаленыя вёскі. Героі кніжкі «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы», найчасцей мясцовыя беларусы, успамінаюць голад, холад падчас бежанства і вельмі беднае жыццё пасля вяртання дамоў, калі часта мусілі адбудоўвацца і ўсё нажываць практычна з нуля, ажно да самой Другой сусветнай вайны. Прафесар Яўген Міраковіч з Універсітэта ў Беластоку напісаў, што кніжка Анэты Прымакі-Онішк «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы» гэта выдатнае апрацаванне лёсаў паасобных людзей і цэлай грамадскасці дасведчаных катаклізмам вайны і суправаджаючай яе палітыкай. Падчас сустрэчы паявілася пытанне ад публікі, чаму так позна стала даследавацца бежанства.

— Тэма бежанства мусіла даспець, покі выйшла з нутра на вонкавы свет. Польскае дваранства, якое таксама выязджала ў бежанства, апісвала яго з падрабязнасцямі. З нашых тэрыторый у бежанства выязджалі перш за ўсё сяляне, часта непісьменныя. Сяляне не мелі звычкі апісваць перажытае. Між іншым пакаленне беларусаў, якое мела прагу вучыцца гісторыі і закончыла гістарычныя факультэты, стала займацца адкрываннем тайнаў бежанства і публікаваннем матэрыялаў аб ім, — гаварыла Анэта Прымака-Онішк і ўспомніла выставу аб бежанстве ў музеі ў Бельску-Падляшскім, матэрыялы да якой у 1990-х гадах Дарафей Фіёнік рыхтаваў разам з Ірэнай Матус і Алегам Латышонкам.

— Аповеды з такімі дэталямі, як тыя сабраныя ў кніжцы «Бежанства 1915 года», складана сёння пачуць. Сведак практычна ўжо няма; у пераказваных гісторыях дэталі сцерліся, зніклі. Гэтае зніканне дайшло да свядомасці ў васьмідзясятых-дзевяностых гадах XX стагоддзя. У Беластоку, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Саколцы дарасло першае пакаленне гарадскіх нашчадкаў бежанцаў... У дзевяностых гадах, падчас вялікага ажыўлення беларускай меншасці, дзеячы арганізоўць летнікі. Моладзь едзе на летнікі ў вёскі і спісвае ўспаміны жыхароў. Першы летнік прысвечаны быў бежанству. Яўген Міраковіч, гісторык (сёння прафесар Універсітэта ў Беластоку, тады галоўны рэдактар «Нівы»), выходзіць з ідэяй, каб з успамінаў удзельнікаў бежанства выдаць кніжку. Журналісты і карэспандэнты тыднёвіка гадамі збіраюць аповеды. Іх інфарматарамі найчасцей былі людзі, якім у момант выезду было некалькі гадоў, — піша Анэта Прымака-Онішк у нававыдадзенай кніжцы «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы».

У мінулым годзе Праграмнай радай тыднёвіка «Ніва» была перавыдадзена і папоўнена кніжка «Бежанства 1915 года», якую можна купіць у нашай рэдакцыі. Яе прамоцыя адбылася ў канцы мінулага года таксама ў Гайнаўцы і таксама суправаджалася яна спектаклем «Бежанцы» ў рэжысуры Іаанны Стэльмашук-Троц. Бежанства апісвалася таксама ў іншых выданнях, між іншым, у кніжцы Дарафея Фіёніка «Бежэнство. Дорога і повороты 1915-1922», прамоцыя якой адбылася ў пачатку гэтага года. Падчас спаткання ў Гайнаўскім белмузеі Анэта Прымака ўспомніла сваю супрацу падчас збірання матэрыялаў пра бежанства з настаўніцай гісторыі Комплексу прафесійных школ у Гайнаўцы Іаннай Сапяжынскай і пра выставу на тэму бежанства ў Белавежскім нацыянальным парку, якая стала вынікам яе супрацы з Евай Мароз-Кэчынскай. Зараз набліжаецца да канца праца над фільмам пра бежанства, рэжысёрам якога з'яўляецца вядомы дакументаліст Юры Калiна. Прадугледжвае ён, што прэм'ера фільма адбудзецца вясной 2017 года.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## «Лаўка і лавачка»

Пад такім лозунгам нефармальная група «Дабрывадзяне» з вёскі Дабрывада Кляшчэлеўскай гміны рэалізавала праект у рамках праграмы «Дзейнічай лакальна». Мэтай праекта было выкананне лавак для сядзення. У выніку працы жыхары вёскі зрабілі шэсць штук своеасаблівай мэблі. Кожная лаўка — іншая. Паставілі іх побач святліцы і будуць яны служыць жыхарам вёскі і іх гасцям у час культурных мерапрыемстваў. Варта адзначыць, што Дабрывада — ініцыятыўная вёска, у якой людзі жывуць у працавітай, дружнай і згоднай сям'і. Апрача лавачак група сялян выканала месца пад вогнішча, дзе ўпершыню расклалі касцёр і сарганізавалі супольную бяседу з песнямі. Імпрэза адбылася 11 верасня, а ініцыятарам праекта з'яўляўся Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях з дырэктарам Марыяй Клімовіч на чале, нотабена, ураджэнкай Дабрывады. Мерапрыемства пачалося ў 15 гадзін з прэзентацыі «Культурнага пейзажу» аўтарства Міраслава Сцепанюка, затым былі абвешчаны вынікі конкурсу на найпрыгажэйшую лавачку. Не было гэтым разам «лепшых і горшых». Лавачкі прэзентаваліся шыкоўна і былі выкананы па-майстэрску. Менавіта таму публіка вылучыла ўсіх удзельнікаў конкурсу: Міхала Зіневіча, Дзмітрыя Артысевіча, Аркадзя Дарашука, Юрыя Сідарука, Дар'юша Саўчука і Паўла Клімовіча.



Пры рэалізацыі праекта «Дабрывадзяне» карысталіся фінансавай падтрымкай Праграмы «Дзейнічай лакальна» IX Польска-Амерыканскага фонду свабоды, рэалізаванага Акадэміяй развіцця філантропіі ў Польшчы, а таксама Асяродка «Дзейнічай лакальна» ў Гайнаўцы. **(ус)**

## Новыя прыгожыя прыстрэшкі

Улады Беластока дбаюць пра маставыя вуліц ды пра прыстрэшкі на прыпынках аўтобусаў гарадской камунікацыі. У першай палавіне верасня гэтага года ў цэнтры горада, на вуліцах Сянкевіча і Мальмеда, паставілі новыя прыгожыя і больш трывалыя прыстрэшкі. Яны папраўляюць выгляд вуліцы і гэтым самым Беластока. Такія прыстрэшкі ўжо не навіна. Раней іх паставілі на вуліцах Ліпавай, Варшаўскай, пры плошчы Яна Паўла II і адзін у пачатку вуліцы Сянкевіча.

Новыя прыстрэшкі многа прыгажэйшыя ад папярэдніх такога роду малых аб'ектаў. Гэтак інвеставаць трэба і далей. Гэта добры накірунак. Пад новымі дашкамі прыемней прысесці на лавачцы ды чакаць «свайго» аўтобуса.

## Будуюць святліцы

Сёлета ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета пачалі будаваць тры мураваныя святліцы. Найбольш прасунутай наперад з'яўляецца пабудова вясковага дома культуры ў Лешуках (звонку будынак ужо гатовы). Зараз ідзе пабудова святліц у Новым Масеве і ў Новай Луцэ пры вуліцы Ясяновай. У Новай Луцэ зрабілі фундаменты

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



# «Одэ» — гісторыя і памяць

**Падляшша стала месцам творчага эксперыменту, а пастаноўкі з'яўляюцца доказам свежага і арыгінальнага падыходу да мастацтва. Ужо трэці раз запар прайшоў Фестываль «Одэ», ладжаны Тэатрам Чрэво. Спектаклі, якія праходзілі ў Бельску, Гайнаўцы, Беластоку і Тэрэміскаx, не толькі захаплялі мастацкім узроўнем, але перш за ўсё дыягнаставалі стан сучаснага беларускага свету. «Одэ» прыносіць забаву, аднак не такую, якая праяўляецца ў дурным смеху, але ў глыбейшай рэфлексіі, сузіранні і задаволенасці ад кантакту з мастацтвам.**

**АКТ ПЕРШЫ**

Сёлета Фестываль «Одэ» шмат увагі прысвяціў наймалодшым. Прапаноўваў не толькі адукацыйныя спектаклі, але таксама перфарматыўныя чытанні ці майстар-класы. Прытым варта адзначыць, што ўсе прапановы прадстаўлялі высокі ўзровень. Можна сказаць, што арганізатары палічылі наймалодшых найбольш патрабавальным гледачом, які, як адзначыла арганізатарка фестывалю Іаанна Троц, ніколі не хаваецца з суб'ектыўным меркаваннем наконт пачутага і пабачанага. Таму чытанні ў праваслаўным прадшколлі ў Бельску-Падляшскім не былі простым зачытваннем апавяданняў, толькі ўзбагачаным музыкай ужывую падарожжам у казачны свет і падляшскі мікракосмас, у якім гучыць свая мова. На думку Іаанны Троц, гэта вельмі важная задача, каб усведамляць тых наймалодшых, што для дыялекту ёсць месца не толькі дома, сярод сваякоў, але таксама ў публічнай прасторы — у тэатры.

— Бачу вялікую зацікаўленасць менавіта спектаклямі для дзяцей, — кажа Іаанна Троц. — Хочам у наступным годзе яшчэ пашырыць прапанову нашага фестывалю для наймалодшых. На маю думку, гэта вельмі важнае, каб яны ўсведамлялі сабе, што з'яўляюцца носьбітамі нашай мовы. Таму праз тэатр гуляем з імі па-свойму.

**АКТ ДРУГІ**

Іаанна Троц праяўляе сябе не толькі як таленавітая акцёрка, але і рэжысёрка. Ставіць перад намі не заўсёды лёгкія пытанні пра наш патрыятызм, сённяшнюю сітуацыю беларусаў, стаўленне да гісторыі. Спектакль «Бежанцы», падрыхтаваны супольна з ліцэістамі, у тым выпадку нельга спалучаць з недахопам прафесіяналізму, але з любоўю да тэатра, якому ліцэісты прысвячалі свабодны ад заняткаў час. Відаць, што рэжысёрцы залежала, каб свежасць і талент маладых людзей мелі магчымасць выявіцца на сцэне шырэйшай публіцы. Клопат пра як найлепшую падрыхтоўку гэта яшчэ не ўсё. Мэта таксама заключаецца ў тым, каб фармаваць свядомасць. Папаўненнем мерапрыемства, якое прайшло ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы, была прапрэм'ера кніжкі Анэты Прымакі-Онішк «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы». Аўтарка сама родам з падсакольскіх Кнышэвіч — вёскі, якой большая частка жыхароў, у тым ліку сям'я пісьменніцы і журналісткі, падалася ў глыб Расіі.

**АКТ ТРЭЦІ**

У рамках Фестывалю «Одэ» жыхары Падляшша маглі яшчэ раз паглядзець спектакль «Попел і памяць», які паўстаў на аснове журналісцкіх тэкстаў, друкаваных у тыднёвіку «Ніва». Сувязь паміж гэтымі двума жанрамі культуры — прэсы і тэатра — вельмі важная і моцная з-за мэт, якімі кіраваліся творцы. Менавіта «Ніва» на пачатку 1990-х гадоў пачала апісваць і даследаваць тэму пацыфікацыі беларускіх вёсак атрадам Рамуальда Райса «Бурага». «Попел і памяць» — рэтраспекцыя жудасных пасляваенных падзей. Нягледзячы на афіцыйнае стаўлення Інстытута нацыянальнай памяці, паводле якога «Буры» застаецца віноўным у злачынствах, якія здзейсніў на беларусах, дыскусія, якую вёў журналіст Мікола Ваўранюк, паказала, што нават самім працаўнікам беластоцкага ІНП цяжка змірыцца з вынікамі даследаванняў.



**АКТ ЧАЦВЁРТЫ**

Прапанова фестывалю была накіравана да кожнага аматара тэатральнага мастацтва — ад самых малодшых да вопытных спажыўцоў культуры. Сёлета многа месца прысвячалася тэатральнай інтэрпрэтацыі твораў беларускай лаўрэаткі Нобелеўскай літаратурнай прэміі Святланы Алексіевіч. «Апошнія сведкі» ў выкананні групы ліцэістаў з Гайнаўкі і п'есы «Час second-hand» Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра гэта спектаклі, якія наблізілі і паказалі прычыны адрозненняў у менталітэце беларусаў з Беларусі і Падляшша. Спектаклем, які закранае важныя для фармавання калектыўнай памяці пытанні, былі «Дзяды. Брэсцкая крэпасць», пастаўлены польскім рэжысёрам Паўлам Пасінім. «Дзяды» Адама Міцкевіча з'яўляюцца часткай нашай агульнай польска-беларускай гісторыі. Фільмавая версія прадстаўлення, паказаная ў беластоцкім драмтэатры даказала, што тоеснасць гэта не тое, што дадзенае, але тое, што мы будуем.

Фестываль «Одэ» паўстаў з запалу, а таксама з патрэбы паказаць сваё ўласнае мастацкае становішча. Сёлетні выпуск «тэатральнага свята» суправаджала рэфлексія над гісторыяй і памяццю. Складаецца выснова, што «Одэ» гэта фестываль, які садзейнічае таму, што тэатр увойдзе на іншы ўзровень супольнага вопыту.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**



**У ходзе III Усходняга гаспадарчага кангрэса прадстаўнікі польскага харчовага бізнесу гаварылі пра паслядоўнасці эмбарга на пастаўкі сваіх вырабаў у Расію.**



# Неспакойны позірк на Усход

(працяг, пачатак у папярэднім нумары)

Старшыня Малочнага кааператыва „Спомлек” з Радзыня-Падляшскага ў Люблінскім ваяводстве **Эдвард Байко**:

— Уведзенае два гады таму эмбарга на гандаль з Расіяй бадай найбольш адчуў харчовы бізнес Польшчы. Гэтае эмбарга дало чыстую прастору, амаль пазбаўленую канкурэнцыі, расійскім вытворцам харчовых прадуктаў. Кранулася там вытворчасць так раслінных, як і мясных вырабаў, яна яшчэ ў ходзе разгону, але праз некалькі гадоў можа яна цалкам заняць тую прастору, якую дагэтуль займаў там польскі харчовы бізнес. У нас поўнасцю не ўсведамляецца паслядоўнасцей гэтага эмбарга для польскай эканомікі. Ёсць суцяшэнні, што мы з эмбаргам справіліся, бо маем новыя рынкі збыту, маем Кітай і г.д. Гэта праўда, але не ўся. Эмбарга на гандаль з Расіяй гэта для нас непапраўная страта. Розніца паміж расійскім і кожным іншым рынкам заключаецца ў тым, што нашы прадукты мелі ў Расіі марачную рэпутацыю; нашы брэнды былі там вядомыя, прызнаныя і цэненыя. А з маркай звязаны грошы. Калі ідзе пра, напрыклад, малочныя прадукты, нам можа здавацца, што маем марачныя сыры. Аднак гэта не так; у шырокім свеце сыры асацыююцца з Францыяй, Швейцарыяй ці Італіяй. Нашы сыры не горшыя, аднак пра якасць у вачах спажыўца штораз часцей вырашае не іх аб'ектыўная якасць, толькі маркетынгавыя захады; гэта датычыць кожнага прадукту, у тым ліку і палітычных праектаў. Маючы адпаведную колькасць грошай на маркетынг можна прадаць усялякае барахло за прыстойную цану. У выпадку харчовых прадуктаў выпрацоўка брэнду, які будзе сядзець у галовах шырокіх колаў спажыўцоў, патрабуе гадоў і вялікіх грошай. Мы, можна сказаць, справіліся з тым эмбаргам у тым сэнсе, што вялізныя лішкі малочнай прамысловасці — трыццаць адсоткаў, удалося прадаць за граніцу, бо што ж было з гэтым рабіць — трэба было экспартаваць за любую цану. Але пайшло гэта ў выглядзе сухога малака, зблаканага масла, сыроў у выглядзе паўпрадуктаў, а да гэтага няма такой нацэнкі як на марачных вырабах. Тут жа найважнейшая цана і ў гэтым сэнсе эмбарга прынесла нам вялікія страты. Калі нават у нейкай будучыні вернемся на расійскі рынак, то тады памяць пра нашы маркі не будзе ўжо такой, як была і адбудаваць яе будзе вельмі складана.

Фінансавы дырэктар фірмы „Віпаш” **Шыман Купрыян**:

— Нам здаецца, і палітыкі нас трымаюць пры гэтым уяўленні, што польскае найлепшае, а гэта няпраўда. Брэнд будуецца гадамі. Дваццаці сямі гадоў замала для збудавання брэнду. Мы не можам супастаўляцца з брэндам французскіх сыроў ці віна або італьянскіх ці іспанскіх шынак, гэта толькі наша пажаданне, часта гэта пажаданне адно палітыкаў. Але не прадпрымальнікаў, якія штодзённа натужлівай працай ствараюць той брэнд. А яго трэба ствараць, бо вядома, што тое, што не мае высокай маркі, прадаецца танна. Аднак не пераўзыйдзем тае розніцы ў гадах. Нямецкія, французскія ці швейцарскія брэнды выспявалі гадамі. Мы працуем, але ўсё яшчэ адстаем. Я тут хачу звярнуць увагу на іншую праблему. У нас спажываецца найбольш свініны, але тут збіраюцца ў нас цёмныя хмары. Мы гадамі кансерваравалі традыцыю — трымаць адну-дзве свінкі. Цягам дваццаці сямі гадоў не выпрацаваны мадэлі польскага свінаводства. Да гэтага даходзіць праблема афрыканскага мору свіней. Ужо цяпер кожная трэцяя катлета — не з польскай свінні. Неўзабаве можам мець усе тры катлеты з нямецкіх ці дацкіх свіней. Гэты мор настолькі небяспечны, што неўзабаве можа знішчожыць польскае свінаводства. Тады трэба будзе адбіўныя са свінога філе заімпартаваць. А што будзе з тымі вялікімі прадпрыемствамі, на якія расходавана мноства грошай? Цяпер, калі імпартуецца трыццаць адсоткаў свініны, спраўляемся, але калі трэба будзе прывезці з замежжа сто працэнтаў свіной сыравіны, тады гэта стане задарагім на нашы спажывецкія кішэні.

Старшыня Саюза садаўнікоў РП **Мірaслаў Малішэўскі**:

— Кожны дзень працягвання расійскага эмбарга гэта страта для польскай сельскай гаспадаркі. Садаўніцтва асабліва пацярпела ад гэтага эмбарга. Яно крыху з гэтым справілася, але не зусім. Мяне не раз папракалі ў русафільстве, але я магу прызнацца, што мы часткова ўзалежніліся ад таго рынку, але не таму, што дапусцілі памылку, але таму, што былі побач буйнога партнёра, які штораз лепей плаціў і штораз больш купляў. Было б гэта непаразуменнем ці нават дзяржаўнай здрадай, калі б мы гэтым не пакарысталіся. Расійскі імпарт яблыкаў цягам дзесяці гадоў вырас з 300 тысяч тон да 1 300 тысяч тон, з чаго мільён тон з самой Польшчы. Мы гэтым пакарысталіся, мы насаджвалі сады пад расійскі рынак. Гэта быў для нас надзвычайны рынак, якога зараз няма і цягам найбліжэйшых гадоў не будзе. Кітай гэтага не заменіць, Кітай сам вырошчвае сорак мільёнаў тон яблыкаў і нашых, што не паедуць у Расію, купляць не будзе. Французы маюць адкрыты кітайскі рынак для сваіх яблыкаў і ніколі ім не ўдалося туды выэкспартаваць больш чым 15 тысяч тон. А мы то прадамо? Гэта страта, бо мы не маем куды гэтага тавару прадаць. Мы націскаем на палітыкаў, каб вярнуцца да гандлёвых размоў з Расіяй, без аглядкі на палітыку. А рускія не спяць, яны здзяйсняюць уласную палітыку. Там падняліся цэны ўсіх харчовых прадуктаў. І ўсе, што там займаюцца харчовай вытворчасцю, гэты рост цэн бачаць, адчуваюць гэта ў сваіх кішэнях. І гэта нарошчвае ў іх кан'юнктуру, і інвестыцыі. І калі эмбарга будзе трываць чарговыя гады, то нават у момант, калі яно будзе адменена, тады апынемся ў зусім іншай рэальнасці. Расія некаторыя прадукты будзе мець свае; ужо сёння яна некаторыя харчовыя вырабы экспартуе. Тое, што яны не могуць купляць прадуктаў навонкі, цэны ў іх высокія, гэта стымулюруе ў іх уласную вытворчасць. І гэта адбываецца даволі скорымі тэмпамі. Трэба ведаць, што расійскі бізнес, які да гэтай пары займаўся імпартам, не могучы зарабляць на гэтым імпарце, не могучы вывезці грошай, інвестуе ва ўласную сельскую гаспадарку і перапрацовачную прамысловасць. Мяне папракаюць, што я лічу Расію важным гаспадарчым партнёрам. Хопіць аглянуцца, колькі мы туды прадавалі малака, садавіны, гародніны. І што сёння з гэтым рабіць? Лягчэй з гэтым спраўляюцца краіны, якіх доля экспарту ў Расію складала пяць адсоткаў, але горш нам, дзе ўдзел экспарту ў Расію некаторых прадуктаў сягаў 70, 80 або і 90 адсоткаў. Мы не можам от так сабе шчоўкнуць і замяніць гэты рынак іншым. Нельга пасадзіць сад і на наступны год атрымаць такія яблыкі, якія хацелі б на сваіх сталах мець кітайцы, карэйцы ці амерыканцы. Сады насаджваецца на дзесяць-пятнаццаць гадоў і мы нашы сады садзілі пад расійскі рынак. Мы хочам увайсці на іншыя рынкі, напрыклад індыйскія, але там нам кажуць так: „Ну, добра, вы хочаце нам прапанаваць сваю садавіну, бо не можаце прадаць яе ў Расію. І хочаце, каб мы адмовіліся ад нашых традыцыйных пастаўшчыкоў і ўзялі ад вас, але што будзе, калі я парву з імі бізнес, а вам зноў адкрыецца расійскі рынак? А ён вам заўсёды будзе больш выгадны ад нашага; тады забудзеце пра нас...”. А яшчэ ж трэба паставіць пытанне, як той мільён тон яблыкаў завезці на другі канец свету. Бывала, што штодзённа выязджала з Польшчы па трыста-чатырыста аўтафур яблыкаў. Як гэта завезці ў Кітай, чым?



Пра эмбарга польскіх спіртных вырабаў у Расію гаворкі не было, аднак было слоў пару пра структуру спажыцця алкаголю ў самой Польшчы. Зараз у сярэднім жыхар Польшчы спажывае 6 літраў гарэлкі, 6 літраў віна і 99 літраў піва ў год. І ў Польшчы спажыццё спіртных напояў у сярэднім меншае, чым ва ўсім Еўрасаюзе, насуперак панаючым у нас стэрэатыпам.

Дэпутат Еўрапарламента **Чэслаў Сякерскі** дадаў, што афрыканскі мор свіней будзе адмоўна ўплываць на імідж не толькі польскай свінагадоўлі, але і ўсяе прадуктовае вытворчасці — што тут нешта не так. І трэба спадзявацца, што ўдасца з гэтай пошасцю справіцца, бо гэта псуе не толькі імідж, але і нясе свінаводам вымерныя эканамічныя страты. І падвёў агульныя прыведзеныя тут нараканні. Наша сельская эканоміка магутная сёння ў ракурсе тон, штук, лікаў. Шмат гадоў мы ўзбуйнялі вытворчасць, а ўзыходзіць на пік лягчэй, чым там пасля ўтрымацца. І гэта наш сённяшні галаўны боль, што з гэтым зрабіць. Трэба тады цяпер разглянуць арганізацыйныя пытанні. Увядзенне эмбарга нанесла ўрон не толькі Расіі, але і Польшчы. Мы вымушаны шукаць месца для сваіх прадуктаў, а Расія мае нагоду ўзяцца за ўласную вытворчасць. Трэба і нам на гэта глянуць як на шанс, каб падумаць, што зрабіць, як зрабіць, каб паспяхова функцыянаваць на гэтым рынку. Асабліва трэба задаволіць якасныя патрабаванні, каб быць канкурэнтнымі ў свеце. Трэба ў свядомасці нашых вытворцаў замацоўваць зацікаўленасць інавацыйнасцю — не толькі ў вялікіх фірмах, але і ў малых. Мы, далучаючыся да Еўрасаюза, поўнасцю не далучыліся да якасных патрабаванняў. На Захадзе прадукты з невялікіх фірм характарызуюцца, у прынцыпе, высокай якасцю. У нас таксама гэта прасоўваецца, толькі маем попытавы бар'ер — недастатковую колькасць спажыўцоў. Аднак запатрабаванне на такія прадукты з кожным годам расце. На працягу нашай прысутнасці ў ЕС мы поўнымі жменямі бралі сродкі на мадэрнізацыю гаспадарак і апрацоўчай прамысловасці, бо цяпер трэба гэта ўдасканаліць. На Захадзе прынцыпам пастаяннага ўдасканальвання вытворчасці і лагістыкі кіруюцца здаўна.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі

# Нараўка і пазітыўная зайздрасць

У Нараўцы ёсць такое, чаго не знойдзеш у суседніх гмінах. Паўсюдна вядома, што ў гімназіі абрываецца лік навучэнцаў беларускай мовы. А тут наадварот, прыходзяць новыя вучні, каб пазнаваць у пісьмовай і літаратурнай форме мову продкаў. Што спрыяе з'яве? Напэўна поспехі ў беларускіх конкурсах, адукацыйныя праекты, экскурсіі і паездкі ў іншыя гарады і краіны, сустрэчы з творцамі, падарожнікамі і цікавымі людзьмі.

Аднак каб ідэі і праекты спрыялі адукацыі і развіццю вучняў, неабходны грунт. Гэта прыстойны ўзровень навучання і атмасфера вакол роднай мовы.

— Зараз думаем пра галерэю славутых беларусаў, — кажа настаўніца Анна Кандрацюк. — Ці гэта будуць літаратары-белавежцы, ці вядомыя ўраджэнцы гміны, пытанне пакуль адкрытае.

Своечасова быў праведзены рамонт у беларускай зале. Гэта якраз падштурхнула, каб увесці новыя матывы, якія пашыралі б веды і цікаўнасць да прадмета. На ганаровым месцы тут стэнд з фотаздымкамі і прозвішчамі лаўрэатаў беларускіх конкурсаў. Ёсць вышыванкі і старыя прадметы, якімі карысталіся продкі навучэнцаў. Настаўніца марыць, каб выдаць зборнік твораў вучняў.



Традыцыйна ўжо гімназісты хочуць праверыць свае сілы ў Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Наступны выклік гэта конкурсы: прадметны, «Беларуская гавэнда», «Роднае слова» і «Пазнай Беларусь». Апрача гэтага іх чакаюць экскурсіі ў Латвію і Беларусь.

Нараўчанскіх гімназістаў мы наведалі 28 верасня, у восеньскі, сонечны чацвер. Сказаць, што атрымаўся жывы, цёплы ўрок, мала. Якраз усе жылі публікацыяй вершаў трэцякласніцы Магды Бяляўскай у «Зорцы». Гэтая падзея, — як адзначыла настаўніца, — выклікала пазітыўную зайздрасць. Усе пра гэта гаварылі, віншавалі аўтарку. Шмат увагі мы адвялі гісторыі нашай газеты, якая ў гэтым годзе святкуе 60-гадовы юбілей!

У гімназіі 62 навучэнцы. Палова з іх вывучае беларускую мову. Яны таксама складаюць вясёлы, таленавіты і арыгінальны круг сяброў, ды выглядаюць кожны нумар «Зоркі».

**ЗОРКА**

**фота: Ганны Кандрацюк**

## Вярблюд і ліса
(казкі каўказскіх народаў)

Пасвіўся адзін вярблюд на стэпе. Ён нікому не мяшаў, шчыпаў ціхенька травіцу. Убачыла яго лісіца і захацела з'есці. Падышла да вярблюда і строга кажа:

— Чаму жарэш траву на маім стэпе?

— Прывядзі сведку, — адказаў спакойна вярблюд, — хай дакажа, што зямля твая.

Пабегла лісіца шукаць сведкі. Якраз насустрач цягнуўся галодны воўк.

— Здароў шэры! Не хочаш тоўстага мяска паесці?

— Надта хачу, — шчоўкнуў зубамі галодны воўк. — Кажы, што рабіць?

— Табе трэба сказаць вярблюду, што стэп — маё поле.

— Гэта ўсё?

— Усё, пабеглі, браток.

Урэшце пабачылі вярблюда.

— Ну, што? — адазваўся спакойна вярблюд. — Прывяла сведку?

— Прывяла. Вось ён, пан воўк.

Тут слова ўзяў сведка:

— Я стары, шмат бачыў, шмат чуў, — пачаў шэры, — і, як памятаю, стэп заўсёды належаў гэтай лісіцы.

— Калі так, — адказаў вярблюд, — дык, прыйдзецца пашукаць іншага месца. Мне чужога не трэба. А вось я наглытаўся травы і не паспеў праглынуць. Яна ў роце. Хачу і гэта вярнуць гаспадыні. Я зараз адчыню рот, а ты калі ласка, дастань яе адтуль.

Дурны воўк сунуў галаву ў рот, а вярблюд цап яго зубамі!

Як пабачыла гэта лісіца, адскочыла і кажа:

— Ой, як добра ты зрабіў вярблюд. Навошта гэты дурны воўк гаварыў няпраўду?!

**(пераклад з рускай мовы ГК)**



Кацярына РАМАНЧУК
ПШ у Нараўцы

### Восень

Як я восень люблю.
Заўсёды яе чакаю
І ў вокны спаглядаю.
Як яна свет змяняе!
У залатыя колеры апранае.
Дзеці цешацца, гуляюць
І з каляровых лісточкаў
Букеты складаюць.

## УВАГА КОНКУРС! № 41-16

**Для Патрыцї і для Лёдзі**
**Маці рве на агародзе**
**Усім знаёмую расліну —**
**У ёй многа караціну.**
**— Наце, — кажа, — ешце, дочкі,**
**Будуць добра бачыць вочкі.**
**М.....**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 16 кастрычніка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 38: лісіца. Узнагароду, наклейкі, выйграла Аня Рушук з Новага Корніна. Віншуем!**

*Міра ЛУКША*

## Акацыя

*Акацыя белая,*
*калючкі вострыя.*
*Цветам нясмелая,*
*драўнінай моцная.*
*Ной будаваў*
*з акацыі каўчэг,*
*век цэлы аддаў,*
*бо рабіў не ў паспех.*
*У храме іудзейскім*
*з акацыі скінія.*
*У гісторыі біблейскай*
*не раз у паміне.*
*Хрыстова карона*
*з акацыі калючай.*
*Любоў нескароная,*
*каханне балючае,*
*бескарысная дружба,*
*несмяротная памяць,*
*добрая служба...*
*Белакветная замець.*



## Афрыканскія госці ў Нараўцы

Адной раніцы мы даведаліся ад настаўнікаў, што сёння да нас прыедзе валанцёр, які разам з сям'ёй жыве і працуе ў Кеніі. Мы вельмі былі цікавыя, як будзе выглядаць гэтая сустрэча і як будзе выглядаць сам валанцёр. Ужо на трэцім уроку выявілася, што гэта паляк і мы былі крыху расчараваныя, таму што чакалі негра. Хутка аказалася, што гэта вельмі сімпатычны мужчына. Спадар Павел паказаў вучням нашай гімназіі, як жывуць дзеці ў Кеніі. Мы пазнаёміліся з гісторыяй адной дзяўчынкі і яе малодшага брата. У іх няма бацькоў і яны жывуць з дзядулямі. Нягледзячы на гэта, яны вельмі вясёлыя. Яны ходзяць у школу, а потым працуюць. (Наша школа ў параўнанні з іхняй гэта рай.)

Пазней жонка сп. Паўла, якая нарадзілася ў гэтай краіне, расказала нам пра традыцыі і звычаі, паказала гульню з каменьчыкамі, афрыканскі танец і заспявала песню. Паказваць дапамагала яе прыгожая, маленькая дачушка Абігейль. На канец нашы вучні задавалі госцям пытанні.

Пасля гэтай сустрэчы мы зразумелі, як цяжка жыць некаторым людзям. Усе ведаюць, якая сітуацыя ў многіх афрыканскіх краінах, аднак калі мы пабачылі і ўчулі тое ад чалавека, які там дапамагае, у нашых сэрцах паявілася хвіліна вялікай задумы над тым, як кожны з нас жыве, чым цешыцца і да чаго імкнецца.

**Караліна КАРАВАЙ**
**III клас Гімназіі ў Нараўцы**

## Вершы Віктара Шведа



### Размова мамы з Адамам

— Мама, ты была малою?
— Была, сынок, такою.
— І хадзіла ты ў школу?
— Хадзіла з бацькоў дазволу.

— А з кім я, вядома,
Аставаўся дома?
— Хачу запярэчыць:
Не было цябе на свеце.

### Дапытлівая Зося

Маму пытае Зося:
— Хто яйкі зносіць?
— Яйкі па натуры,
Зносяць куры.

— А чаму, — пытае Зося, —
Яек пеўні не зносяць?
Ці не хочуць, мама,
Ці не ўмеюць? — скажу прама.

*Замкі і палацы Беларусі*

## КРЭЎСКІ ЗАМАК — МЕСЦА КАРАЛЕЎСКІХ ІНТРЫГ І ГІСТАРЫЧНАЙ УНІІ

Усе ведаем Крэва з-за гістарычнага праекта 1385 года, які наблізіў Вялікае Княства Літоўскае (сённяшняя Беларусь) і Каралеўства Польшчы. У выніку ўзнікла Рэч Паспалітая, якой кіраваў кароль Уладзіслаў Ягайла.

Падзея завяршылася на Гродзеншчыне, у велічнай крэпасці з валуноў, пабудаванай у еўрапейска-раманскім стылі. Замак узвялі паўстагоддзя раней, па загадзе вялікага князя Альгерда. Яго задачай было спыніць набегі крыжаносцаў, якія з мэтай заваёваў урываліся на тэрыторыю Княства.


Малюнак Напалеона Орды

Замак мае разбудаваныя падземеллі, склепы і вежы, якія паслужылі арэнай для палітычных інтрыг і змагання за каралеўскую ўладу. У адной з вежаў быў задушаны сапернік Ягайлы, родны дзядзька караля, князь Кейстут. Падобны лёс чакаў яго сына, вялікага князя Вітаўта, які насіўся з намерам стаць каралём ВКЛ. Вітаўт ацалеў. Ён перахітрыў вартавых ды збег з недаступнага замка, пераапрануты ў жаночае адзенне.

Як большасць крэпасцей ВКЛ, крэўскі замак быў пашкоджаны ў час Паўночнай вайны (1700-1721). Знішчэнне працягвалася ў час Першай сусветнай вайны.

Сёння замак прадстаўляе сабой маляўнічыя руіны, аднак яго памеры жыва сведчаць пра гістарычны ранг, веліч і значэнне. Замак настолькі вялікі, што немагчыма яго сфатаграфаць у цэласці (толькі з вышыні самалёта!).

Гэта таксама вялікі выклік для аматараў сярэдневяковых турніраў і легенд, а дадатковы атракцыён і штуршок даюць замкавыя падземеллі, якія цягнуцца пад цэлым старажытным мястэчкам, большым за сучасны пасёлак.

**ЗОРКА**

## Польска-беларуская крыжаванка № 41-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 37:**

Аснова, каса, латок, там, рог, Рыга, увага, юта, пара, дата, арка, одум, пантаміма. Матыў, пасаг, пан, гама, арт, Юрка, рута, слова, нага, дом, кот, града, вока, мак, мама.

Узнагароды, запісныя кніжачкі з каляровымі лісткамі, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Opowieść
Kwas
Kolonia
Parka
Mag
Horn
Temat
Tur
Uwaga
Aster
Mi
Irka
Swat
Rogi
Warkocz
Październik
Ar
Ina
Umywalka
Na
Żeby
Warszawa

# Лоўля імгненняў





На крынскім жыдоўскім могільніку

**Паездка ў Польшчу, калісь званую «старым домам», вынікае з чыстай цікавасці даведацца, што па ім засталося, што засталося з ландшафтаў, па якіх так тужылі ў выгнанні дзяды і бацькі. Гэтыя, якія трываюць у салодкіх успамінах прошлага, пра такі візіт нават не думаюць. Навошта ім горкае расчараванне. У інтэрнэце знаходжу запіскі з падарожжа Якава Пата. У ліпені 1989 года наведаў ён Беласток, Супрасль, Крынкі, Тыкоцін і Трэблінку. Упершыню пасля выезду ў сакавіку 1939 года. Ніколі больш не пабачыў сваёй вялікай крынскай сям'і і сяброў.**

Гэта ўжо іншыя Крынкі, без сваіх жыдоў, якія ажыўлялі мясцовы гандаль і прамысловасць. У параўнанні з навакольнай чароўнай прыродай здаліся яму шэрымі і ніякімі. У 1939 годзе выязджаў з горада, пяцьдзясят гадоў пазней вяртаецца ў пераслую вёску.

— З дваццаці габрэйскіх гарбарняў, пасылаючых сваю вытворчасць не толькі ў Польшчу, але таксама ў еўрапейскія краіны, у тым ліку ў Расею і Нямеччыну, засталася толькі адна, калектыўная, і некалькі варштатаў, — піша Якаў Пат. — Рынак, дзе калісь жыццё біла крыніцай, не існуе. Вялікая плошча — сэрца горада — цяпер парк, які збівае з тропу вока ў пошуках старога рынку. На вуліцы Гарбарскай пад нумарам 11 жыла мая бабуля Мая Фінк. Гэтай хаты ўжо няма. Насупраць захавалася двухпавярхоўка сям'і мамінай сястры — Рахэлі і Баруха Тобольскіх. Усе яны сталі ахвярамі халакоста. Мясцовыя прымалі мяне сціпла, але ветліва, некаторыя абыходзілі бокам, спускалі ў вокнах занавескі. Мабыць, баяліся, што жыды вернуцца сюды па сваё. Нейкую сенсацыю выклікаў таксама мой вялікі «Мерседэс».

На поўнай гразі фабрычнай Пагулянцы жыў калісь сябра народжанага ў Крынках жыхара аўстралійскага Мельбурна Тэвеля Пружанскага. Тэвель прасіў перадаць яму падарак. На жаль, старога сябра я не знайшоў. Затое папаў у абдымкі іншага «сябра» з нясвежым, моцна насычаным алкаголем дыханнем. Запрашаў у хату на вячэру. Аддаў яму гэтых сто «зялёных» — раўнацэннасць шасці мясцовых зарплат. Апошні прыпынак — зарослы, неагароджаны, пакрыты каровіным гноем могільнік. На ім астаткі каменных магіл, самых простых, сціплых, абдзёртых з уласных гісторый. Лепшыя — мармуровыя, мабыць, некаму спатрэбіліся. Маміна сястра Лія Ліпкес памерла ў 1937 годзе пасля аперацыі. Тут яе пахавалі. У мармуры высеклі пень дзерава — сімвал ранняй смерці ў трыццацітрохгадовым узросце. З Крынак выязджаю затуманены дэпрэсіяй.

Знаёмая знаёмага просіць мяне заапекавацца групкай турыстаў. Даследчыкі музыкі колішніх штэтлаў, прыродазнаўцы, настаўнікі прыедуць сюды ўпершыню з далёкай Каліфорніі. Дзень перад сустрэчай званю, каб спраўдзіць, ці з начлегамі ў іх усё ў парадку. Супакоіць мяне голас, на маю думку, трыццацігадовай, па-амерыканску вясёлай, бландзінкі. У размове стараюся трымацца крынскай тальнасці з нотай добра засвоенай, працяглай няўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Так хочацца, каб хаця нехта выехаў згэтуль з сонечным небам над галавой, з добрым успамінам, з пазітыўным досведам.

На месца сустрэчы выбіраем Супрасль у палове дарогі паміж Беластокам і Крынкамі.

Сярод сыходзячых з аўтобуса пасажыраў не бачу трыццацігадовай бландзінкі. Падыходзіць да мяне пасівелая жанчына, якой больш за шэсцьдзясят. Пазнаю ейны голас. Пастарэла ад учора на цэлых трыццаць гадоў. Час плыве ракой, варта гэта помніць і надта не здзіўляцца. Жанчына знаёміць мяне з цэлым сваім экіпажам, сярод якіх бацька і сын з крушынянска-бабруйскімі каранямі. З нецярпеннем чакаюць паездкі ў Крушыняны. Вельмі хацелі з'ездзіць і ў Бабруйск, але, на жаль, не атрымалі віз.

Экскурсію ў незвычайнай прыгажосці палац Бухольцаў і лаўру адтэрміноўваю на далейшы план. Усё-такі выпадае пачаць з жыдоўскай гісторыі мястэчка.

На ліцэнзаваных курсах для турыстычных гідаў па Падляшшы ні словам не ўспомнілі пра гэта. Хіба што толькі, як цікавінку, пра Цытронаў — пазнейшых заснавальнікаў фабрыкі вельмі папулярных у нас «Сітраэнаў» — па-нашаму цытрынаў. Інфармацыю шукаю на жыдоўскіх сайтах. Зноў карыстаюся занатоўкамі з падарожжа ў канцы васьмідзясятых гадоў, здзейсненага Якавам Патам. Свой шпацыр па Супраслі пачаў ён з манастыра, беручы пад увагу бацьку, якога ў 1940 годзе саветы паставілі кіраўніком дома для перастарэлых. Прытулак займаў частку манастырскіх памяшканняў. Некалькі крокаў далей цэнтральны аўтобусны вакзал — колішні рынак. Побач з рынкам палац Бухольцаў, ужо без вялікай каменнай сцяны, якая аддзяляла яго ад жыхароў мястэчка.

Тут далучаемся да яго экскурсіі і ўваходзім на завершаную каталіцкім касцёлам вуліцу 3 Мая. Па абодвух яе баках доўгія, драўляныя хаты так званых ткачоў, аказваецца яўрэяў: Гольдшмітаў, Штурмакаў, Глейзераў, Віняградаў, Шпінераў, Гершуноў, Бутэнскіх, Сікураў, а нават апошняга рабіна Супрасля Міхала Лева. Па-суседску — хата дзядзькі Іцхака Шаміра (Езярніцкага) — прэм'ера Ізраіля.

Не дасягаючы касцёла, зыходзім налева ў вуліцу Пастэрункавую. Калісь вяла яна проста ў сінагогу. Жыла тут, між іншым, Мірыям Сэгаль і кравец Ізбін. Застаўся яшчэ будынак сям'і Фінаў. Канец Пастэрункавай спалучаецца з сярэдзінай галоўнай артэрыі супрасльскіх габрэяў — вуліцай 11 Лістапада. Тут стаяла Вялікая Сінагога, старая школа, лазня, хаты рабінаў. Шукаем іх слядоў, хаця б фундаментаў. Распытваем напатканых на вуліцы мясцовых. Нічога не ведаюць, неахвотныя размаўляць з незнаёмымі. На адным з панадворкаў распазнаю жанчыну, з якой калісь мы спявалі ў беларускім хоры.Таксама нічога не ведае. Прыйшла сюды з недалёкай вёскі, ніколі не раздумвала над гісторыяй гэтага месца. Цяпер шкадуе. Усе, якія маглі б нешта сказаць, ужо паўміралі. На вуліцы штораз больш турыстаў, у асноўным замежнікаў. Распытваюць, фатаграфуюць, а яна не ў змозе ім ніяк дапамагчы. Добра ставіцца да чужых, сама толькі што вярнулася з Амерыкі ад родных дзетак, па якіх вельмі тужыць. Жыве сама ў вялікім, пасляваенным будынку ў стылі «бункер» — тады толькі такія дазвалялі ставіць. Насупраць яе доўгая драўляная хата і помнік.

— Паставілі яго недзе два гады таму, — тлумачыць наша субяседніца.

„Pamięci supraskich Żydów, którzy przybyli do naszego miasta w XVIII w. i wraz z nami je współtworzyli. Wspólne istnienie przerwali niemieccy okupanci w listopadzie 1942 roku, dokonując na nich masowego mordu w Treblince", — чытаем банальны надпіс на помніку. Прытым ён з сур'ёзнай памылкай, паколькі жыдоўская прысутнасць у Супраслі бярэ свой пачатак не ў васямнаццатым, а ў сямнаццатым стагоддзі. Не напісана таксама, хто з'яўляецца фундатарам помніка, які стаіць на прыватнай зямлі. Малады чалавек — жыхар хаты з помнікам, не падзяляе зацікаўленасці гісторыяй сваёй вуліцы. На яго думку, гэта зусім дарма. Не згодны ён таксама з ідэяй помніка. Шкадуе, што ніхто з ім — уласнікам грунту, не кансультаваўся. Папросту паставілі і ўсё. На завяршэнне размовы прапануе нам нумар тэлефона чалавека, які можа нам нешта распавесці.

Больш зарыентаваная ў гістарычнай тэме маці хлопца аб'ясняе нам, дзе стаяла Вялікая Сінагога і таксама раіць пакарыстацца згаданым нумарам тэлефона. На жаль, месца па сінагозе абазначана таблічкай «тэрэн прыватны» і ўвайсці туды немагчыма.

Да нядаўна ціхая вулачка хутка бяжыць у напрамку таннай камерцыі. Ёсць ужо нейкі гатэль-рэстаранчык у стылі нямецкіх, аўтастрадных бараў хуткага сэрвісу. Праз акно выглядаюць, якраз, кітайскія турысты. Пару крокаў далей дошка з выпаленым на ёй шызафрэнічным тэкстам «Gdzie dom ma dwie różne ściany, skręć na przeciw bramy i idź drogą księdza... Tam „żydowska górka" (з малой літары), czarna dziura w historii miasta, synagoga spalona, pamięć trawą zarasta. Mijając Nowy Świat wchodzisz do dzielnicy, gdzie noclegi sprzedaje każdy w okolicy».

Абедаем у маёй хаце. На шчасце ў маразілцы ёсць яшчэ чорны хлеб з Беларусі, прызначаны на чорную гадзіну. Гадзіна здаецца самай светлай, а хлеб — найлепшым заменнікам так чаканай маімі гасцямі візы ў Бабруйск.

Пасля ста гадоў зноў у Крынках, ужо не гаманлівых, а глуханямых. Абавязковы здымак з указальнікам мясціны і пагранічнымі польска-беларускімі стаўбамі непадалёк юраўлянскага могільніка. Гэта ж амаль Беларусь. Бабулі не павераць. Так баяліся, не хацелі адпускаць унукаў у Польшчу, якая запісалася ў іх памяці хваляй антысемітызму трыццатых гадоў.

Калі б гэтыя бабулі не эміграваlі, не было б маіх гасцей. Яны б не нарадзіліся, іх патэнцыяльных бацькоў адвезлі б у крэматорыі Трэблінкі.

Сорам на жыдоўскім могільніку. Бутэлькі, банкі, трава па шыю. Паваленыя навальніцай дрэвы ляжаць на паваленых імі апошніх мацэвах.

— Гэта не праблема характару культуры канкрэтнага народа, — гавару маім гасцям. — Тут ідзе пра бяздушны эгаізм, блізарукасць, пра свет бачаны ў межах выключна ўласнага панадворка.

Мае госці ўсё-такі вераць, што ёсць на свеце разумныя людзі і іх сапраўды шмат.

Пасля сустрэч з алкаголікамі пры руінах Вялікай Сінагогі адпраўляемся ў Крушыняны.

Губляемся сярод масы турыстычных атракцыёнаў, рэклам памерам вясковай хаты. Як і ўсе астатнія бегаем паміж мячэцю і рэстаранам і ніяк не можам сябе знайсці. Драўляная мячэць сапраўды рэдкасць сусветнага маштабу. А вялікая камерцыя ўсё ж такі дапамагае публічна заісноўваць невялікай, этнічнай меншасці.

Мая мара збылася. Госці выязджаюць з пачуццём добра праведзенага часу. Больш таго, абяцаюць яшчэ вярнуцца.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

У тэксце выкарыстаны фрагмент успамінаў Якава Пата («Return to Childhood Haunts». By Yaacov Patt, http://www.zchor.org/suprasl/suprasl4.htm).

# Пра савецкіх салдат, загінуўшых на Срэбрнай горцы

Раніцай 25 чэрвеня 1941 года нямецкія салдаты ўбачылі з Чыжоў бляск узыходзячага сонца, адбіты аб шыб вайсковых машын, якімі ехалі савецкія салдаты і застраглі ў балоце на Срэбрнай горцы. Гэтае ўрочышча знаходзіцца кіламетр ад вёскі. Танкавая часць камандзіра маёра Дунаева адступала, ехаўшы ноччу ад Орлі і кіруючыся на ўсход палявою дарогаю, не маючы перад сабо ніякай разведкі. На высокі ўзгорак і стромы пад'езд Срэбнай горкі не ўсе маглі ўзабраца. Многія салдаты, высеўшы з машын, пайшлі дарогаю ў Чыжы. Астатнія дапамагалі зачапляць нялёгкія канаты. Гул матораў было чуваць далёка. Каля сотні немцаў, якія прыехалі некалькі дзён раней у Чыжы на веласіпедах і матацыклах, занялі баявыя пазіцыі. Знялі чарапіцу з хаты Дзяніса Пракапюка, многія з іх на латах устанавілі станковыя кулямёты. Толькі чакалі, бачліва назіраючы, дзе што дзеецца. Тэлеграфіст пераказаў даныя размяшчэння савецкіх войск, каб на адзін квадратны кіламетр адначасова ўдарыла нямецкая цяжкая артылерыя 137 Палка з ваколіц Ужык, аддаленая 7 кіламетраў, а таксама яшчэ з іншых мясцін 137 Дывізія пяхоты і 448 Полк пяхоты.

Ой, было тут гора, горачка, калі неспадзявана пасыпаўся град снарадаў, асколкі, кулі і разнёсся страшэнны гууук! Быў толькі адзін выхад — жывым салдатам уцякаць жытам, хто куды мог. Адразу падняўся чорны дым. Гарэлі танкі, грузавікі, аўтамашыны, танкеткі, гарматы, разрываліся боепрыпасы. Паўтарагадзінны абстрэл зрабіў той сонечны дзень цёмнай ноччу. Усе салдаты, што ішлі па дарозе, ляжалі забітыя. Калі ўціхла артылерыйская кананада, то 12-гадовы Вася Васілюк з Лушчоў чатыры кіламетры бег на Срэбрную горку, каб убачыць, што там здарылася. Не было там яшчэ ніякіх немцаў і хлопец адразу хуценька сам вярнуўся дамоў. На працягу дня на пабоішчы паявіліся немцы. Раненых дабівалі. Усіх разам з камандзірам загінула там пяцьсот савецкіх байцоў, многія ўцяклі, а 150 трапіла ў палон і яны мелі быць расстраляны на жвіроўні, што каля могілак. Але змяніўся загад, каб адаслаць іх недзе ў канцлагер. Некалькі дзён забітых, якіх целы раскладаліся пры чэрвеньскай спякоце, выносілі з жыта мясцовыя жыхары Чыжоў. Укладвалі іх на фурманкі і звозілі хаваць у адным месцы на самым узгорку пясчанай зямлі Срэбрнай горкі — якая бярэ тут назву ад бляску серабрыстай вады ў крыніцы.

21 чэрвеня 1941 года ў Чыжах адзін з прыбыўшых немцаў, убачыўшы бацюшку Яўгенія Кульчыцкага, выходзячага з хаты Фірсюкоў, раскрычаўся, што гэта Юда пераапрануты ў святара! Дзяўчына, якая належала да царкоўнага хору, Саламея Фірсюк вельмі плакала, прасіла літасці і засланіла святара сабою, але немец не паслухаў, адапхнуў яе і застрэліў бацюшку. На яго месца ў Чыжоўскую парафію пераехаў іншы бацюшка, з Ціхаволі, Васілій Васільеў — там якраз немцы выселілі з пушчанскі вёсак усіх жыхароў, прытым там яшчэ і царкоўка згарэла. Матушка Кацярына Кульчыцкая пры немцах у чыжоўскай школе навучала дзяцей нямецкай мове. Усё ж такі адшукала таго немца, расказала яму ўсю праўду па-нямецку, і той раскаяўся.

24 чэрвеня 1941 года з боку Збуча ў Чыжы ўехала савецкая танкетка, а за ёю грузавікі. Немцы толькі чакалі пад бетонным мостам, каб заатакаваць. Праўдападобна панцрэфаўст трапіў, разбіў і запаліў танкетку, да таго яшчэ немцы абкідалі яе гранатамі. З грузавіка выскачылі салдаты і кінуліся ўцякаць на панадворак Аляксандра Юзвюка, але не паспелі, чэргі з нямецкіх кулямётаў забілі ўсіх.

Першая эксгумацыя на Срэбрнай горцы адбылася ў 1950 годзе. Адкапаныя тады былі астанкі 227 цел, якія пахавалі ў Гайнаўцы на могілках савецкіх салдат. У 2014 годзе адбылася другая эксгумацыя, праведзеная маскоўскай групай «Поиск загинувших без вести». Адшукалі астанкі 151 цела. На трунах быў спіс загінуўшых, між іншым:

Джеле (С) Каев Абдувалей, красноармеец, 1914-25.06.1941 г., Казахская ССР; Толстипов Иван Павлович, красноармеец, 1918-25.06.1941 г., Украинская ССР; Зимарин Алексей Петрович, красноармеец, 1919-25.06.1941 г., Краснодарский край; Мусатов Александр Никифорович, красноармеец, 1919-25.06.1941 г., Курская область.

Пачаўшы ад 1945 года прыблізна ў памятны дзень з Чыжоў заўсёды хадзіла працэсія на Срэбрную горку служыць паніхіду па загінуўшых салдатах. У нас у Чыжах ніхто не робіць фальшывай палітыкі. Гэта сапраўды былі савецкія салдаты, якія ваявалі з нямецкім захопнікам. Трапілі як ваўку ў зубы і загінулі без аніводнага выстралу 75 гадоў таму назад. Слава савецкім салдатам! Няхай памяць вечная жыве!

**Ян МІХАЛЮК**

# Чыжоўская загваздка



Крыжы на Срэбрнай горцы

Атрымаў я даручэнне з'ездзіць у Чыжы і высветліць адну сумніўную дату, якую наш чытач Ян Міхалюк падаў у сваім допісе на тэму тамашняй ваеннай даўніны. Сеў я тады ў поезд, злез з поезда ў Лейках і цераз Спічкі і Орлю апынуўся ў недалёкіх ад Чыжоў Шчытах. У Шчытах-Дзенцялове на лавачцы каля крыжа, што пры скрыжаванні вуліц, сядзеў пажылы мужчына. Аднак я каля яго не спыняўся, падаўся ў месца побач шчытоўскай царквы, дзе была стаяла фігура святога Яна Непамуцкага. Аглянуўшы месца, азірнуўся я за сябе і ўбачыў, што бачаны мною раней мужчына падаецца быццам у мой бок. Заглянуўшы яшчэ на стэнды перад царквою, рашыў я пачакаць, бо ж ад пажылых людзей, якія шмат што бачылі, можна сёе-тое даведацца. Гутарка завязалася насцярожана, бо калі я прадставіўся, што з „Нівы", мой субяседнік прытомна адказаў, што магчыма гэта праўда, а, магчыма, што і не.

Мужчына чакаў пасярэдзіне вёскі аўтакрамы, а калі тая не прыехала, рашыў падацца на аўтобус і ехаць у Бельск. Трэба ж нешта прыдбаць для харчавання, але ў майго субяседніка была і іншая патрэба — трэба было аплаціць таксама нейкія рахункі. У Орлю блізка, але пажылому чалавеку, якога век я ацаніў недзе пад дзевяноста, бліжэй у Бельск, а дакладней — да недалёкага аўтобуснага прыпынку. Ідучы памаленьку, наколькі дазвалялі магчымасці майго часовага спадарожніка, расказаў мне ён крыху пра мясцовыя падзеі з часу апошняй вайны.

Вайна, а дакладней — нямецкае наступленне, пачалася ў нядзелю 22 чэрвеня, а нямецкія войскі з'явіліся каля Шчытоў і Чыжоў ужо ў сераду. Тут праходзілі жахлівыя баі. Са Шчытоў выехаў савецкі танк, а за ім бронемашына. З танка немцы збілі вежу, а ў бронемашыну снарад трапіў у адны бакавыя дзверы і прабіў яе навылет, экіпаж машыны згарэў. За гэтымі дзвюма машынамі ад вёскі выехалі другі танк і за ім зноў бронемашына, але калі іх экіпажы пабачылі, што сталася, паўцякалі са сваіх машын. Немцы меркавалі, што ў вёсцы знаходзіцца больш савецкага войска, таму частку вёскі спалілі. Яны бязлітасна абыходзіліся з савецкімі салдатамі: пяцярых апошніх ішло з паднятымі рукамі здавацца, аднак нямецкія ваякі з ходу расстралялі іх.

Запытаў я і пра бой на Срэбрнай горцы, якая каля паўкіламетра ад найбліжэйшых чыжоўскіх збудаванняў у напрамку менавіта Шчытоў. На гэтай горцы знаходзілася савецкая гаўбічная батарэя. Вяла яна агонь пакуль немцы не забілі яе камандзіра. Тады савецкія байцы, што асталіся ў жывых, здаліся, а немцы пагналі іх у напрамку Бельска. У напрамку Гайнаўкі ўцякла адна жанчына, вадзіцелька цягача, але невядома, што з ёю пазней сталася.

Яшчэ слоў пару расказаў мне сведка тадышніх падзей і пра баі ў 1944 годзе. На Арлянцы фронт спыніўся на восем дзён. Савецкія разведчыкі назіралі за ворагам з даху маёнткавага будынка, які стаяў на шчытоўскім, але паблізу Крывой. Немцы высачылі той назіральны пункт і з боку Агароднік далі па ім агонь; у маёнткавым будынку было тады каля дваццаці савецкіх салдат; усе яны загінулі ад меткага нямецкага снарада. У іх ліку быў маёр, якога ардынарац браў у сям'і майго субяседніка харчы свайму камандзіру; пасля смерці камандзіра ардынарац трапіў на перадавую...

Ад шчытоўскага аўтобуснага прыпынку падаўся я ў бок Збуча, да чарговага такога прыпынку, што насупраць Ракавіч. На абочыне шашы крыж... Каля дзесяці гадоў таму загінула там маладая жанчына, лічаныя дні перад сваім вяселлем. Выйшла яна з-за аўтобуса, засяроджаная размовай цераз мабільнік, не разглянулася на шашу, па якой акурат гналася машына, як снарад...

Падаўся я на Срэбрную горку; цяпер там дзевяць крыжоў: тры драўляныя стаяць у выпадковых месцах, а шэсць у шарэнзе. Тры з іх у першапачатковай агароджы і тры ў дагароджы, значыць агароджы дастаўленай пазней. На двух з іх даты ўстанаўлення крыжоў, на адным прозвішча байца...

Падаўся я цяпер да Яна Міхалюка, які напісаў, што немцы забілі тамашняга бацюшку 21 чэрвеня 1941 года. І гавару, што немцы ў Чыжах не маглі быць у той дзень, акурат напярэдадні пачатку нямецкай атакі на СССР, нават дэсанту не маглі на той час скінуць. А што ўжо гаварыць пра тое, што яны дайшлі туды, як я вось толькі што ад несумненнага сведкі тадышніх там падзей даведаўся, тры дні пазней — значыць найраней 25 чэрвеня... Але наш чытач цвёрда трымаўся сваёй даты. Дык калі ж узяліся тады ў Чыжах немцы? — пытаю. А насталі яны ў 1939 годзе — пачуў я ў адказ. Але як яны маглі суіснаваць у міжчасе з саветамі, пра прысутнасць якіх мой суразмоўца ведаў, гэтага ўжо не ўдалося мне ад яго даведацца...

Цяпер настаў такі час, калі людзі аспрэчваюць, здавалася б непахісныя, факты з даўніны. Толькі патрэбныя дзеля гэтага нейкія доказы. Доказам у майго суразмоўцы была дата смерці тамашняга забітага гітлераўцамі святара Яўгенія Кульчыцкага, высечаная на ягоным намагільніку на чыжоўскім цвінтары: 21 чэрвеня 1941 года. Мала гэтага, гэтая дата фігуруе таксама ў даведніку пра праваслаўнае духавенства аўтарства а. Рыгора Сасны. Няма ўжо ў жывых а. Рыгора, каб распытаць і яго пра дату трагічнай падзеі. Аднак ёсць перадумовы, якія дазваляюць меркаваць, што а. Рыгор Сасна папросту па-чалавечаму памыліўся. А найбольш верагодна, што памыліўся аўтар спраўкі пра скон а. Кульчыцкага, якую а. Рыгор прыняў за аснову сваёй інфармацыі. І гэтаксама памыліліся аўтары эпітафіі.

Не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць, а а. Рыгор Сасна выканаў агромністую дакументацыйную работу, у ходзе якой і не звярнуў увагі на неадпаведнасць даты. Дарэчы, у даведнікавым артыкуле пра наступнага чыжоўскага святара а. Васілія Васільева пададзена інфармацыя, што да прыходу ў Чыжы служыў ён у Галынцы каля Бераставіцы. І ў спіску крыніц падаецца некралог у „Царкоўным весніку" з 1965 года. Заглянуў я і туды, а там пра Галынку нічога, затое пададзена сапраўдная інфармацыя, што да прыходу ў Чыжы а. Васільеў служыў у Ціхаволі... Нечаму дзівавацца, аўтары ж Евангелляў таксама неаднолькава, кожны па-свойму, асвятлялі апісаныя імі падзеі...

І яшчэ слоў пару пра акалічнасці смерці а. Кульчыцкага. Мой чыжоўскі суразмоўца прагаварыўся, што настаяцель меў „другую матушку" — прыгажуню, якая спявала на кліросе, хаця пасля дадаў, што не верыць у такія чуткі пра духоўную асобу. А трэба быць больш даверлівым. Вось жа некалькі гадоў таму мясцовыя сродкі масавай інфармацыі падавалі, што тадышні святар з Боцькаў здзейсніў „благавешчанне" адной са сваіх прыхаджанак — гэтак жа як евангельскі архангел Гаўрыіл ці старазапаветны прарок Елісей. І мабыць гэтая чыжоўская *love story*, якая не вельмі супадала з сакральнымі вянчальнымі абяцаннямі — а святары таксама ж вянчаюцца, калола ў вочы некаторых прыхаджан і нехта з іх, мабыць, не давяраючы ў абяцаную справядлівасць Страшнага суда, хітра падпусціў нацыстаў, каб прыкончылі скандал. Ці то стоячы пад вянцом, ці то прытуляючыся да мабільніка, чалавек не ведае ні дня, ні гадзіны...

А той дзень, зусім выпадковае 21 чэрвеня, стаў стымулам для прыгадання і трагічных, і павучальных падзей не толькі сямідзесяціпяцігадовай даўнасці.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Урок гісторыі, геаграфіі і ... уражлівасці.

Памёр Шымон Перэс — адзін з апошніх бацькоў-заснавальнікаў Ізраіля, двухразовы прэм'ер-міністр урада і прэзідэнт дзяржавы, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (з Іцхакам Рабінам і Ясірам Арафатам) у 1994 годзе за мірныя перамовы з палесцінцамі. Гэта толькі вяршыня палітычнай дзейнасці мафусаіла блізкаўсходняй палітыкі. Раней, між іншым, ствараў узброеныя сілы Ізраіля і яго разведку, доўгія гады кіраваў адкрыта дыпламатычным ведамствам, не кажучы пра розныя тайныя місіі, як хацяб праграма па стварэнні ядзернай зброі ў цэнтры *Dimona*. Ці ж дзіўна, што пра смерць такога чалавека паведамілі прэсавыя агенцтвы ва ўсім свеце? Кіраўнікі дзяржаў адзін за адным слалі ў Іерусалім словы спачування. А журналісты сталі корпацца ў крыніцах і прыгадваць жыццёвы шлях памерлага.

Так было і ў Польшчы. „Шымон Перэс нарадзіўся ў польскім Вішневе, сёння на Беларусі *(obecnie na Białorusi)*", — паведамляў карэспандэнт Польскага радыё, а за ім паўтаралі вядучыя навін на працягу цэлага дня. Тэлеканал TVN 24: „нарадзіўся як Шымон Перскі 2 жніўня 1923 года ў Вішневе ў Наваградскім ваяводстве на тэрыторыі ІІ Рэчы Паспалітай (сёння Беларусь)". Штотыднёвік „Wprost": „нарадзіўся ў польскай мясцовасці Вішнева, у беднай яўрэйскай сям'і". А былы прэзідэнт Лех Валенса наогул сказаў, што Шымон Перэс нездарма быў такім, бо ў яго „польскія карані".



■ Стары фатаздымак сям'і Пэрэсаў. Злева направа сядзяць: Шымон, яго бацькі Сара і Іцхак. Злева направа стаяць: Соня, брат Шымона Гігі з жонкай Кармэлай

Гонар за выдатнага чалавека — з'ява натуральная. Ганарацца земляком менскія яўрэі, якія пасля смерці Перэса зладзілі своеасаблівую пілігрымку ў Вішнева, каб там за яго памаліцца і пабачыць зямлю, з якой ён выйшаў у свет. Ганарацца і беларусы ў Вішневе, дзе, між іншым, ёсць шыльда ў гонар прэзідэнта Ізраіля, захаваліся панадворак і студня, якія калісьці належалі яго сям'і. А само Вішнева, хаця сёння з'яўляецца ўсяго вёскай Валожынскага раёна, калі пакорпацца ў гісторыі, мае яшчэ больш прычын дзеля гонару. З канца XVII стагоддзя працавала там школа базыльян, у другой палове XVIII стагоддзя адчынілі металургічны завод, сто гадоў пазней — гуту шкла. Былі там і царкоўна-прыходская ды яўрэйская школы. Пашчасціла Вішневу і на выдатных людзей. Там працаваў і памёр асветнік Сымон Будны, жылі ў свой час і знайшлі спачын паэтэса Канстанцыя Буйло і мастак Фердынанд Рушчыц. Неўрадлівую беларускую каталіцкую ніву доўгія гады араў і засейваў менавіта ў Вішневе айцец Уладзіслаў Чарняўскі.

Каб атрымаць гэтую жменьку інфармацый, хопіць заглянуць у „Беларускую энцыклапедыю", чаго я зрэшты ад польскіх журналістаў ці палітыкаў не чакаю. Але ўжо кароткая біяграфія ў польскай Вікіпедыі даступная ўсім. І там, між іншым, можна прачытаць успамін самога Шымона Перэса: „Я нарадзіўся ў малым яўрэйскім штэтл, якое між Першай і Другой сусветнымі войнамі было пад польскім кантролем, але жылі там беларусы і палякі. І яны ненавідзелі палякаў. Не гаварылі на іх мове. Месца, у якім я нарадзіўся, было маленькае, поўнасцю яўрэйскае, а мы не жылі ні ў Польшчы, ні ў Расеі. Жылі ў Ізраілі ад дня маіх народзінаў, яшчэ да эміграцыі". Шымон Перэс пакінуў Вішнева ў 1934 годзе, калі яму было адзінаццаць гадоў. І менавіта такім убачыў сваё мястэчка, калі агледнуўся назад амаль восемдзесят гадоў пазней, у 2003 годзе.

Досыць, аднак, пра гісторыю і геаграфію. Цяпер пару слоў пра ўражлівасць. Дапусцім, што нямецкія газеты „Frankfurter Algemaine Zeitung" ці іншы „Bild" змясцілі інфармацыю: „Эбергардт Мок (літаратурны герой — М. В.) нарадзіўся ў 1883 годзе ў нямецкім Брэсляў, сёння ў Польшчы *(obecnie w Polsce)*". І хаця ў гэтай фразе немагчыма знайсці ні гістарычнай, ні геаграфічнай няпраўды, не трэба багатага ўяўлення, каб пачуць абураныя галасы палякаў. У медыях поўна было б пра нямецкі імперыялізм і рэваншызм, гучалі б пагрозы судамі і не ведаю, ці не дайшло б да дыпламатычнай ноты.

Вяртаючыся да Шымона Перэса і Вішнева ў польскіх сродках масавай інфармацыі, хачу адзначыць, што не цяжка знайсці і прыклады паліткарэктнасці (ужываю гэтае слова ў станоўчым сэнсе, нягледзячы на моднае апошнім часам здзекліва да яго стаўленне). Вось што напісаў інтэрнэт-партал Onet: „Szymon Peres urodził się w sierpniu 1923 roku w Wiszniewie, wtedy położonym na terytorium przedwojennej Polski (obecnie jest to część Białorusi)".

Можна? Можна.

❖Мікола ВАЎРАНЮК




На пачатку кастрычніка ў беларускім Магілёве прайшоў Трэці Нацыянальны форум „Музеі Беларусі", дзе музейныя ўстановы з усёй краіны прадстаўлялі сябе і свае часовыя экспазіцыі. Уласна 360-тысячны Магілёў мае не надта многа сапраўдных больш-менш значных музейных установ — каля паўдзесятка. І галоўным з'яўляецца Магілёўскі абласны краязнаўчы музей імя Еўдакіма Раманава — выдатнага даследчыка Магілёўскага краю. Для таго, каб хацяб бы аддалена пазнаёміцца з музеем, трэба зазірнуць на яго сайт, што месціцца па адрасе **http://mogilewmuseum.by**.

Варта адзначыць, што раней музей меў сайт, які быў цалкам рускамоўны і выглядаў не надта прывабліва. Цяперашняе інтэрнэт-прадстаўніцтва музея мае дзве моўныя версіі, прычым першай з'яўляецца беларуская, і пабудаваная яна згодна сучасным павевам у сайтабудаўніцтве. Так, галоўная старонка змяшчае выйсці на іншыя рубрыкі ўверсе цэлага выяўлення, а інфармацыя, змешчаная ўласна на ёй, падаецца гарызантальнымі блокамі.

Фотаздымак музея знаходзіцца адразу пад выйсцямі да рубрык. Дарэчы, яго будынак падчас царскім часам выкарыстоўваўся для мясцовага акругового суда.

Ніжэй пад фотаздымкамі месціцца анонсныя паведамленні пра часовыя выставы і сталыя экспазіцыі. Апошнія дазваляюць атрымаць даволі зразумелае ўяўленне, аб чым можа распавесці музей, калі туды патрапіш у рэчаіснасці. Экспанаты „кажуць" пра археалогію і старажытную гісторыю, гісторыю Магілёўскага краю з IX ст. да 1917 года, з 1917 па 1945 гады, пра яго прыроду. Этнаграфічныя асаблівасці дадзенай тэрыторыі прадстаўлены ў філіяле краязнаўчага музея, што месціцца ў асобным будынку непадалёк і мае назву „Музей этнаграфіі".

Значна ніжэй усяго гэтага знаходзіцца стужка навінных паведамленняў і анонсы тых падзей, якія набліжаюцца. Такое размяшчэнне падаецца крыху дзіўным, бо звычайна навіны знаходзяцца на адным з першых і адразу заўважных месцаў.

„Гісторыя музейнай справы ў Магілёве бярэ свой пачатак 15 лістапада 1867 г., калі пры губернскім статыстычным камітэце быў заснаваны першы Магілёўскі музей", — распавядаецца ў падрубрыцы „Гісторыя" рубрыкі „Музей". У гэтай жа падрубрыцы можна азнаёміцца з усёй гісторыяй папаўнення музея экспанатамі аж да нашых дзён. Але найкаштоўнейшым экспанатам яго быў і нягледзячы на знікненне застаецца Крыж Ефрасінні Полацкай, які знік у 1941 годзе падчас уцёкаў савецкіх чыноўнікаў ад наступаючых нямецка-фашысцкіх войскаў.

„Фонды музея налічваюць больш за 133 000 экспанатаў асноўнага фонду. Усе яны сабраны ў пасляваенны час. Гэта матэрыялы археалагічных раскопак на тэрыторыі Магілёўшчыны, калекцыі і скарбы манет Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Рускай дзяржавы; крыжы, абразы, жывапіс, прадметы побыту 19-20 стст., этнаграфічныя калекцыі, ваенныя рэліквіі, вялікі дакументальны фонд", — падагульняюць гісторыю музея яго супрацоўнікі.

Цяпер многія сайты музеяў прадстаўляюць наведвальнікам магчымасць віртуальна яго наведаць. Дадзены сайт таксама мае выйсце на такі віртуальны тур, але ён — „у распрацоўцы".

Таксама не надта зразумелым для наведвальнікаў сайта з'яўляецца і адсутнасць пазначэння хоць нейкіх асоб, датычных да працы музея. У рубрыцы „Кантакты" мы не знойдзем ні аднай персаналіі.

❖Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ




Руплівіца беларушчыны, збіральніца раслін



## 25 гадоў з дня смерці
# Зоські Верас

Беларуская пісьменніца, грамадска-культурная дзеячка Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая) нарадзілася 30 верасня 1892 г. у мястэчку Мядзыбаж (цяпер Лятычаўскі раён Жытомірскай вобласці, Украіна). Паходзіла з сям'і вайскоўца Антона Сівіцкага і Эміліі Садоўскай родам з Гарадзеншчыны. Дзед па маці Людвік Садоўскі быў знакамітым пчаляром і садаводам, вучыўся ў Варшаве, добра ведаў беларускую мову і карыстаўся ёю. Бацька быў родам з Гародні, называў сябе ліцвіном, шмат чытаў, любіў паэзію. Пачатковую адукацыю, у тым ліку і музычную, атрымала дома. У 1904 г. паступіла ў прыватнае гандлёвае вучылішча ў Кіеве. У 1905 г. жыла ў Луцку на Валыні. Пасля смерці бацькі ў 1908 г. пераехала разам з маці ў родавы маёнтак Альхоўнікі (па іншых крыніцах — маёнтак Крыштапарова) на Сакольшчыне. У 1912 г. скончыла прыватную жаночую гімназію Кацярыны Баркоўскай, што мясцілася ў камяніцы Стэфана Баторыя ў Гародні. У 1914 г. закончыла 10-месячныя садоўніцка-агародніцка-пчалярскія і 6-тыднёвыя ваенныя санітарныя курсы ў Варшаве.

Зоська Верас — удзельніца Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі (1909-1913), дзе працавала бібліятэкаркай і сакратаркай. У гуртку грала ў пастаноўках розных п'ес. Удзельнічала ў выданні альманаха „Колас беларускай нівы". Кантактавала з газетай „Наша ніва", віленскімі выдавецтвамі.

З 1915 г. у Менску. Працавала ў розных беларускіх арганізацыях. Тады ж пазнаёмілася з беларускім дзеячам Фабіянам Шантырам, з якім завязаліся рамантычныя адносіны. Называла яго сваім мужам, хоць афарміць адносіны не ўдалося. У канцы 1918 г. пакідае Менск з прычыны хваробы маці і вяртаецца ў маёнтак дзеда — Альхоўнікі. У 1919 г. у Зоські Верас нарадзіўся сын Антон. Яго бацька — Фабіян Шантыр — быў расстраляны ў 1920 г. У 1922 г. пасля смерці дзеда маёнтак давялося прадаць. У 1923 г. у лясным масіве на Панарскіх узгорках пад Вільняй Людвіка разам з Антонам Войцікам пабудавалі прасторную хатку з галінак дрэў, абмазаных глінай. У 1926 г. яны пажаніліся і павянчаліся. У гэтым шлюбе нарадзілася дачка Галіна, па мужу — Луцкевіч.

У 1920-30-х гадах Зоська Верас працавала ў розных віленскіх газетах, часопісах, грамадскіх арганізацыях. Апекавалася беларускімі палітычнымі вязнямі, якія сядзелі ў віленскай турме „Лукішкі". Вынесла адтуль вершы Міхася Машары і выдала за свой кошт яго першы зборнік „Малюнкі". Друкавала свае творы ў часопісах „Шлях моладзі", „Студэнцкая думка", дзе выступала разам з Наталляй Арсенневай.

У 1946 г. сына, Антона Шантыра, арыштавалі і асудзілі. Ні маці, ні сястра не ведалі, дзе знаходзіцца Антон і што з ім. Пасля таго, як у 1944 г. была зачынена Віленская беларуская гімназія, а ў 1945 г. ліквідаваны Беларускі музей імя Івана Луцкевіча, а ў 1948 г. раптоўна памёр муж, у жыцці пісьменніцы наступіў цяжкі перыяд, які пазней яна назвала „летаргічным сном". У 1956 г. Антон нечакана вярнуўся дамоў са сталінскіх лагераў, цяжка хворы: 10 гадоў ён быў пазбаўлены права ліставацца з маці.

У канцы 1980-х гг. вакол Зоські Верас гуртавалася беларуская інтэлігенцыя Вільні. У 1988 г. Зоська Верас разам з зяцем Лявонам Луцкевічам утварылі спачатку клуб „Сябрына", а ў 1989 г. імі было заснавана Таварыства беларускай культуры ў Літве. Зоська Верас шырока вядомая як збіральніца і даследніца раслін. Памерла яна ў 1991 г., пахавана на Панарскіх могілках побач з магіламі маці, мужа і сына.

❖Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Свойскі дух хат

У Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны ёсць 43 драўляныя дамы. Варта адзначыць, што ў Гайнаўскім павеце захавалася шмат драўлянай забудовы, перш за ўсё жылых дамоў, але і сельскагаспадарчых будынкаў. Некаторыя хаты з прыгожымі ганачкамі (яны як дэкаратыўная частка хаты і як месца адпачынку пасля працы летам). Архітэктурная разьба выступала каля калонак, на падстрэшніку, шчыце, вятроўках. Гэтыя дэкаратыўныя элементы — працяг агульнага знешняга ўпрыгажэння хаты. Дамы мелі трохшыбавыя вокны ды адно-два акенцы ў шчытах. Вокны ўпрыгожвалі шалёўкамі, ліштвамі і аканіцамі. Знізу былі падаконнікі, па якіх сцякае з акон вада.

У пасляваенны перыяд дахі дамоў былі крыты шэрай цэментна-вапнавай або аранжавай керамічнай чарапіцай. Вуглы дамоў шалявалі гладкімі дошкамі і на іх набівалі арнамент, геаметрычныя фігуры, элементы раслін, кветкі або птушкі. Некаторыя дамы былі абабітыя шалёўкай. Зімой унутры ашаляваных хат было куды цяплей.

Зараз бацькоўскія дамы перш-наперш пераймалі іх дзеці. Некаторыя маладыя ўласнікі свае дамы прадалі знаёмым (зараз у Новым Ляўкове тры такія выпадкі). У трох хатах дажываюць яшчэ самотныя бацькі. Дзевяць хат зніклі бясследна. На іх месцы можна сустрэць яшчэ рэдкія кусцікі бэзу, язміну або чаромхі, а нават старыя грушы і яблыні з былога саду. Часам частку былой агароджы. Гэтыя дамы і панадворкі з калодзежамі з жураўлямі засталіся ў маёй памяці. Шэсць з іх было прыгожых, у тым ліку два з вялікімі ганачкамі.

У Новым Ляўкове драўляны дом з нумарам дванццатым, у якім я жыву, пабудаваў яшчэ мой дзед. Мае ён свой характар. І я стараюся захаваць дух гэтага дому. У маім доме, між іншым, тыя самыя вокны, дзверы, клямкі, вялікая шафа і маёй ма-



мы пасажны салідны з акоўкамі сундук. Ёсць у ім старыя іконы ў куце, на іх ручнікі, фотаздымкі дзеда, бабулі і бацькоў у рамках і за шклом. Печы перабудаваныя на той самы колішні лад. Маюць яны г.зв. духоўкі ды ляжайкі. Дом накрыты шэрай чарапіцай. У шчыце ад вуліцы ёсць акенца, каб на гары дома было відно. Гэта адзін з найстарэйшых дамоў у вёсцы.

Гэты дом наводзіць успаміны з майго дзяцінства, якое ў ім прайшло. Хачу дадаць, што было яно шчаслівае. Бацькі ганялі да працы. Але ў мае раннія гады дзеці не цураліся працы, дапамагалі бацькам на гаспадарцы ў кожную пару года па меры сваіх сіл. А яна, праца, была самая разнастайная. Між іншым, мы пасвілі кароў і авечак, дапамагалі ў полі і на сенажаці. Дагэтуль стаіць у адным з пакойчыкаў пісьмовы стол, пры якім я пісаў дамашнія працы і рыхтаваўся да чарговых урокаў у школе. Апоўдні заглядала ў яго сонца. Стол стаяў пры адным з акон на агародчык, які аддзяляў дом ад вуліцы. Паглядзеў я зараз у тое акно. У агародчыку праз гады ўсё памянялася, выраслі іншыя пладовыя дрэўцы, летам цвітуць іншыя кветкі. Вясной зацвітае той сам бэз. Няма двух дрэўцаў чаромхі над ровам. Вуліцу пашырылі, роў засыпалі і не стала ёй месца. На вуліцы не пясок, як было некалі, і не брук, а ўжо шмат гадоў як паклалі асфальт.

Не толькі я зберагаю драўляны дом. У маёй роднай вёсцы такія дамы ёсць у Несцерукоў, Скепкаў, Казлоўскіх, Саевічаў, Болбатаў, Бароўскіх, Пучынскіх, Целушэцкіх, Ігнацюкоў, Сухадолаў, Галубоўскіх, Грыгарукоў, Кучкаў, Леўчукоў, Сахарчукоў, Красноўскіх і Харкевічаў.

Гутарыў я з аднавяскоўцамі аб тым, як ім жывецца ў дамах з дрэва. Яны сказалі, што ў такім доме добра сябе адчуваюць і не памянялі б на іншы. У старых драўляных хатах свойскі клімат. Яны захоўваюць той ранейшы дух. У іх яны маюць свае любімыя куточкі і найчасцей там праседжваюць.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Крывадушнасць і фальсіфікацыя

Ад 1 верасня абавязвае закон аб бясплатных лякарствах для сеніёраў, якім больш за 75 гадоў. Калі прэм'ер-міністр Бэата Шыдла на прэс-канферэнцыі пасля «рэканструкцыі ўрада» хвалілася, што ў бюджэце на будучы год забяспечаны грошы на бясплатныя лякарствы сеніёрам, дык мне моташна стала. Аб якіх «дармэных» медыкаментах ідзе гаворка? Возьмем для прыкладу фармацэўтычныя сродкі на павышаны ціск крыві. На спіску апынуліся прэпараты: Indix SR (30% — 2,78 зл.), Amlopin (30% — 7,52 зл.), Torvacard (30% — 6,69 зл.). У агульным падліку пацыент (у маім выпадку) атрымаў бясплатна тры лякарствы вартыя 16,99 зл., а за апошнія два вымушаны быў заплаціць: Tritace (дагаворная цана — 12,32 зл.) і Acard (100% — 9,00 зл.). Разам 21,32 зл. Ці гэта не крывадушнасць? Такіх прыкладаў можна прыводзіць без ліку. Але ці ўлада слухае голас суверэна? У выбарчай кампаніі Права і справядлівасць заяўляла ўсім ды паўсюдна, што ў парламенце будзе разглядаць грамадзянскія прапановы. А як справа маецца з абортамі? Адкінулі грамадзянскі праект пасля першага чытання! Не важныя ім «чорныя пратэсты» жанчын. Не важны голас апазіцыі ў мас-медыях. Парламентарная большасць карыстаецца сваімі прынцыпамі. Такая ўжо сённяшняя рэчаіснасць — шэрая і змрочная.

Пасля новага года прадбачваецца значная нацэнка ставак за электраэнергію і ваду, што непазбежна паўплывае на рост цэн харчовых прадуктаў. Гэта ўжо пэўна. А як будзе з зарплатамі і пенсіямі? На той жа прэс канферэнцыі прэм'ер Бэата Шыдла гарантавала, што на пераацэнку пенсій і на прыбаўку да самай нізкай пенсіі сродкі ў новым бюджэце забяспечаны. Ніякай канкрэтыкі. Ці гэта не чарговая фальсіфікацыя спадарыні прэм'ер? Як інфармаваў тэлеканал «Польсат Ньюс 2» на пытанне «Ці адчуваеш сябе ашуканым ПіСам?» становўча адказала 92% апытаных, адно 8% дало адмоўны адказ. Я далучаюся да тых першых.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. земнаводная жывёла, агідны чалавек = 15 _ 1 _ 2 _;
2. традыцыйная сялянская будыніна для захавання збажыны = 21 _ 10 _ 11 _ 24 _ 25 _;
3. урачысты верш прысвечаны падзеі або герою = 4 _ 3 _ 14 _;
4. пузырыстая маса на кіпучай вадкасці = 12 _ 18 _ 17 _ 16 _;
5. крок = 13 _ 9 _ 8 _;
6. зімовае адзенне з футра = 19 _ 20 _ 5 _ 22 _;
7. другі перыяд мезазоя = 23 _ 6 _ 7 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | | | | | |
| | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 38 нумара**

Капуста, Чавусы, мармелад, гімн, лінія, ярд, выццё, цела, цар, цаля, Масква.

Рашэнне: **У цёмным месцы і гніляк свеціцца**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 100 egz.

# 11.10 — 17.10

**(22.03. — 20.04.)** Трэба будзе шукаць шляхі да паразумення ў партнёрскіх адносінах. Калі ты ў пары і ў вас ёсць шэраг прынцыповых пытанняў, запланулуйце дыялог. З панядзелка па сераду выдатны час для дасягнення ўзаемаразумення, таксама ў дзелавым партнёрстве. Спрыяльныя дні для вырашэння фінансавых праблем. Можаш браць грошы ў пазыку. Паспрабуй з серады рашуча пакончыць са шкоднымі звычкамі. На выходных устрымайся ад буйных пакупак.

**(21.04. — 21.05.)** Навядзі ідэальны парадак у хатніх справах і на працоўным месцы. Праводзь генеральную ўборку, ладзь рамонт. Адносіны ў сям'і больш гарманічныя. Не забывай пра здароўе. У другой палове тыдня твой імунітэт можа аслабнуць, рызыкуеш стаць ахвярай вірусной інфекцыі. У чацвер і пятніцу эканом сілы і не астынь.

**(22.05. — 22.06.)** Можа адбыцца эвалюцыя ў тваім асабістым жыцці. Адносіны складуцца выдатна. Калі ты самотны, можаш пазнаёміцца з кімсьці падчас далёкай паездкі або па інтэрнэце. У чацвер і пятніцу магчымае пахаладанне ў вашай сувязі. Паспрабуй устрымацца ад спатканняў і пабудзь у адзіноце. На выходных можа пагоршыцца самаадчуванне, з'явіцца фізічная слабасць, бессань. Не злоўжывай лекамі, асабліва заспакаяльнымі сродкамі і снатворным.

**(23.06. — 23.07.)** Важныя адносіны ў сям'і і з каханым чалавекам. У першай палове тыдня можа адбыцца добрая размова аб спадчыне. Добры час для рамантычных адносін. Дзеці пацешаць сваімі поспехамі. Старайся больш уважліва паставіцца да блізкіх людзей, перш за ўсё старэйшага пакалення — яны маюць патрэбу ў тваім клопаце. Не грэбуй хатнімі абавязкамі.

**(24.07.—23.08.)** Засяродзься на ўрэгуляванні хатніх спраў і клопатаў. Час спрыяльны для вучобы, паездак і кантактаў з людзьмі. У сямейных адносінах мір і гармонія. Захочацца неяк упрыгожыць, добраўпарадкаваць хату. Для гэтага будзе ўсё неабходнае: матэрыяльныя рэсурсы, вялізнае жаданне і добразычлівая атмасфера ў сям'і. Больш спакойна стаўся да меркавання іншых людзей.

**(24.08. — 23.09.)** Найбольш актуальныя пытанні, звязаныя з працай і кантактамі з людзьмі. Да серады ўключна будзе ўсё атрымлівацца без праблем. Зможаш павысіць узровень свайго прафесійнага майстэрства, што становўча адаб'ецца на даходах. Другі пасяховы напрамак — вучоба і рамантычныя адносіны. Лёгка асвоіш любы навучальны матэрыял і адшукаеш патрэбную інфармацыю. Не выключаны кароткія любоўныя прыгоды ў дарозе. У другой палове тыдня магчымы фінансавыя цяжкасці. Прыйдзецца паашчаджаць?

**(24.09. — 23.10.)** Можаш упасці ў дэпрэсіўны стан, выкліканы незадаволенасцю сабой, сваім знешнім выглядам або стылем паводзін. Маеш шанц выправіць гэтае становішча. Паглядзі ў люстэрка і адзнач тыя свае рысы, якія не падабаюцца больш за ўсё. Можаш пачаць эксперыменты са сваёй знешнасцю! Змяні стыль. Асабліва ўдала пачнеш рашучую барацьбу з лішняй вагой. Пастарайся стрымацца ад прысмакаў, асабліва шакаладу.

**(24.10. — 22.11.)** Узмоцніцца цікавасць да ўсяго загадкавага і таямнічага. Пачні больш глыбока вывучаць мінулае сваёй сям'і — распытай пра далёкіх продкаў, важныя падзеі ў родзе і роднасныя сувязі. Надыходзіць важны момант для развіцця ўнутранай самасвядомасці, у чым значна дапамогуць веды па гісторыі роду. Вучыся і кантактуй з людзьмі, шукай актуальную інфармацыю. З чацвярга тваё самаадчуванне можа пагоршыцца. Не кантактуй з ныцікамі. Больш адпачывай.

**(23.11. — 22.12.)** Адшукаеш людзей, якія акажуць неацэнную дапамогу ў рэалізацыі тваіх планаў. Добры час для правядзення расследаванняў, пошуку інфармацыі, у тым ліку канфідэнцыйнага характару. Прадставіцца табе ўдалы шанц у выглядзе работы на паўстаўкі ці па сумяшчальніцтве. Магчыма, з'явіцца ўплывовы заступнік, які дапаможа табе ўсё гэта ўладкаваць. І ты бескарысліва дапамагай іншым.

**(23.12. — 20.01.)** Інтэнсіўныя сяброўскія зносіны. Новыя знаёмствы. Узрасце роля віртуальных зносін. Будзеш уцягнуты ў бурнае абмеркаванне пытанняў на форумах. Некаторыя сяброўскія сувязі стануць рамантычнымі. Трэба будзе выпрабаваць на сабе жорсткі прэсінг з боку аўтарытэтнага і ўплывовага чалавека. Ад цябе будуць патрабаваць больш сур'ёзных і адказных паводзін.

**(21.01. — 19.02.)** Час спрыяльны для вучобы і кар'ернага прасоўвання. Трэба будзе правесці кулуарную сустрэчу з уплывовымі людзьмі, дзе будзе абмяркоўвацца тваё новае кар'ернае прызначэнне. Могуць паставіць табе неафіцыйныя ўмовы, абавязацельствы, пагадзіўшыся з імі атрымаеш тое, чаго жадаеш. Удалы час для ўрэгулявання пытанняў, звязаных з навучаннем.

**(20.02. — 21.03.)** Сканцэнтруйся на пытаннях навучання. У школе шанц значна паправіць сваё становішча. Настаўнікі і выкладчыкі будуць настроены да цябе добразычліва. Добры час для далёкіх падарожжаў, пашырэння кругагляду, знаёмства з людзьмі з іншай культурнай традыцыі, і для зносін праз інтэрнэт. Старайся пазбягаць экстрэмальных сітуацый, а таксама любой дзейнасці, якая можа прывесці да траўмаў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (57)


Гульні і свабода на вуліцы ў Любязі

У Любязь я прыехала паглядзець на Прыпяць і яе меандры, распытаць у людзей пра сувязь з ракой і возерам. Мая палеская вандроўка пачалася з прысвіцязскіх балот у Шацкім раёне, дзе крыніцы палескай Амазонкі. Ад пачатку цікавіла мяне вусная народная творчасць, звязаная з ракой, легенды, песні, былі. Але на гэтым грунце чакала мяне поўная параза. Толькі ў адным месцы, дакладна ў Любомлі, ведалі адкуль назоў Прыпяць. Аповед быў настолькі схематычны і спрошчаны, што сам расказчык на канец сказанага моцна ўсумніўся. Назоў атрымаўся нібыта з таго, што Прыпяць выплывае з пяці розных крыніц, якія зліваюцца ў адну плынь. Сцяпан Бамбіза з беларускіх Ляскавічаў, аўтар эксклюзіўнага фотаальбома «Маё Палессе», прапануе набліжаную версію. Паводле яго, назоў бярэцца ад пятнаццаці прытокаў, што ўліваюцца ў Прыпяць. Калі злічыць усе прытокі і крыніцы, легенды губляюць сэнс, ды замест пабольшыць значэнне і веліч ракі, адвадочна яе абмяжоўваюць. На самой справе ў Прыпяці 123 прытокі. Колькі крыніц — ніхто яшчэ не злічыў.

Калі ў Любязі я спытала адкуль назоў іх ракі, у адказ пачулася эмацыйная скарга:

— А ў нас такая бяда, не расказаць...

— Якая бяда?

— Ужо два гады запар пануе такая засуха, што страх падумаць, што далей будзе. Рака вясною не разлілася, а месцамі так перасохла, што можна яе перайсці ўброд. Найстарэйшыя людзі такога не памятаюць...

Прыпрыпяцкія палешукі цудоўна адрозніваюцца ад сучасных людзей у адной справе: калі яны чагосьці не ведаюць, памаўчаць і адашлюць да больш паінфармаваных ці адукаваных людзей. Вось і мяне ў адміністрацыі гасцініцы, дзе згаварыліся пра раку, адразу накіравалі ў сельсавет:

— Там падкажуць, хто ведае такія рэчы.

* * *

У гэты раз нечакана для сябе я пасялілася ў нумар з кандыцыянерам і ваннай з джакузі. У прыбіральні ляжалі неабходная касметыка і фен. Мой апартамент, калі ўлічыць актуальны курс долара, каштаваў толькі 14 долараў за ноч. Яшчэ больш цешыла мяне адна справа. У адміністрацы прыплюшчылі вока на мой няшчасны выгляд. Пасля дзікай вандроўкі па нязведаным лесе і здзічэлым парку мае ногі і рукі былі ў ранах, з якіх сачылася кроў. Каб гэтага было мала, следам прыплёўся дзікі сабака з лесу. Сабака цікаваў на панадворку гасцініцы ажно да майго ад'езду.

Каб паспець перад закрыццём устано-


Інтрер'ер ў рэстарнне ў гатэлю


Любязь, вулачка да царквы

вы, адразу пасля раскватаравання я схадзіла ў сельсавет. Адміністрацыйны цэнтр знаходзіўся непадалёк гатэлю ў старой, пабеленай вапнай, муравванцы. Усярэдзіне, сярод аскетычнага інтэр'еру, панаваў прыемны халадок і мёртвая ціш. Урэшце я трапіла ў пакой, дзе ўвіхаліся дзве маладзенькія і надта ветлівыя працаўніцы.

— Вам трэба сустрэцца з нашай Наталляй Іванаўнай, — вырашылі аднагалосна. — Яна найлепш будзе ведаць.

Адна з іх дабыла сваю мабілку ды набрала нумар будучай субяседніцы. У маю карысць зноў спрацавала дэталь, то-бок падляшская мова.

— Гэтая пані нармальна кантактуе паўкраінску, — сказала пра мяне чыноўніца.

Сустрэчу назначылі праз чатыры гадзіны. Наталля Шклёда, мясцовая настаўніца гісторыі, запрасіла ў сваю хату. Інтрыгавала дзіўная выпадковасць. Мне пашанцавала дамовіцца з асобай, у якой, па словах згаданага ўжо гісторыка Сцяпана Аласюка, прыпрыпяцкае скандынаўскае прозвішча. У карысць варажскіх міфаў прамаўлялі яшчэ карцінкі з глыбінкі. На кожным кроку мяне абміналі лёгкія фурманкі, набітыя белабрысымі і рыжымі хлапчукамі і дзяўчынкамі. Вярталіся з лесу. Усе стараліся падзарабіць на чарніцах, якія сёлета ўрадзіліся як на вайну. На пачатку сезона за кілаграм плацілі 27 грывень, пасля цана ўпала напалову, каб праз два тыдні пашыбаваць угару і спыніцца на 19 грыўнях (тадышні курс: 1$ = 26 грывень). За дзень адна сям'я магла зарабіць ад 400 да 1000 грыўняў. Па ўкраінскіх мерках гэта сума адпавядала месячнай пенсіі настаўніка.

Я глядзела на пасажыраў у перапоўненых фурманках і захаплялася іх руплівасцю, лоўкасцю, спрытам. Ніхто не меў лішняга грама тлушчу.

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК



# XIX
## Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XIX Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

### ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборліва рукапіс у двух экзэмплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XIX Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

### ТЭРМІНЫ

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2016 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2016 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.

ISSN 0546-1960